ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ
# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 44 (4742) 8 лістапада 2013 г.


8 Што князі чыталі?


10 На Садовай, у Булгакава


15 Беларуская песня аргана


16 Вернемся ў дзяцінства!

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка пацвярджае цікавасць да развіцця супрацоўніцтва з Туркменістанам па ўсіх напрамках. Гэта Кіраўнік дзяржавы адзначыў у Ашхабадзе на перамовах з Прэзідэнтам Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедавым. Прэзідэнт Беларусі таксама падкрэсліў, што сумесная дзейнасць у гуманітарнай сферы спрыяе ўмацаванню ўзаемаразумення і сяброўскіх стасункаў паміж народамі. Асобны акцэнт быў зроблены на галіне культуры. Дасягнута дамоўленасць пра абмен Днямі культуры Беларусі і Туркменістана ў 2014 — 2015 гадах.

✔ Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку Беларусі Зінаіду Зубкову з юбілеем. «Ваша дзейнасць, непарыўна звязаная з праслаўленай купалаўскай сцэнай, з'яўляецца прыкладам адданасці раз і назаўсёды выбранаму шляху і самаахвярнага служэння нацыянальнай культуры», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Бюст Марка Шагала адкрылі на тэрыторыі Лёзненскага ваенна-гістарычнага музея непадалёк ад месца, дзе быў дом сваякоў знанага мастака. Ідэя стварэння належыць скульптарам Аляксандру Гваздзікаву і Азату Тарасяну. У цырымоніі адкрыцця ўзялі ўдзел прадстаўнікі мясцовых органаў улады, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Ізраіля ў Рэспубліцы Беларусь Іосіф Шагал, жыхары Лёзна.

✔ XVIII Міжнародны фестываль арганнай музыкі «Званы Сафіі» праходзіць у Полацку з 3 лістапада па 8 снежня. Галоўная асаблівасць форуму — разнажанравасць канцэртных праграм. Побач з арганам пад зводамі полацкага сабора будуць гучаць саксафон, блокфлейта, гістарычны кларнет 1800 года, шалюмо (драўляны духавы інструмент эпох Сярэднявечча і Барока). Разам з такімі арганістамі, як Крыстаф Хаўзер (Германія) і Ханс Хрысціян Хейн (Данія), на фестывалі ўпершыню выступяць выбітныя еўрапейскія выканаўцы Марэк Стэфаньскі (Польшча), Валерыя Балахоўская (Украіна), Элізабэт Завадке (Швейцарыя), Фларыян Хок (Германія).

✔ Праект «Іграй, гармонік, у Александрыі» распрацоўваюць да свята «Александрыя збірае сяброў», якое штогод праходзіць 6 — 7 ліпеня ў Шклоўскім раёне. Пра гэта паведаміў начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Магілёўскага аблвыканкама Анатоль Сінкавец. Чакаецца, што ўдзел у купальскіх мерапрыемствах возьмуць 20 таленавітых гарманістаў з Магілёўскай вобласці, іншых рэгіёнаў Беларусі, Расіі. На гэты час дапрацоўваецца канцэпцыя праекта, ідзе падбор гарманістаў. Другая частка ідэі — выстаўка старадаўніх і сучасных гармонікаў.

✔ 11 лістапада ў сталічным Доме літаратара (вул. Фрунзэ, 5) адбудзецца творчы вечар паэта-песенніка Івана Цітаўца. У мерапрыемстве бяруць удзел вядомыя кампазітары Ігар Лучанок і Алег Чыркун, ансамбль песні і музыкі «Свята», іншыя музычныя калектывы, спевакі. Пачатак у 18.00. Уваход вольны.

**Падрыхтавала**
**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

*Фота Аляксандра Дзмітрыева*



*На сёлетнім кінафестывалі «Лістапад» беларускія актрысы з'явіліся перад публікай у строях ручной работы ад французскага куцюр'е Дэні Дзюрана. На фота: Дэні Дзюран са сваёй музай.*

## Пытанне да творцы

# Як уплывае «Лістапад» на беларускае кіно?



**Людміла Саянкова, загадчык кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ, кандыдат філалагічных навук, дацэнт, кінакрытык:**

— У ідэале кінафэст павінен уплываць на кіно, таму што гэта дэманстрацыя тэндэнцый, якія складваюцца ў свеце кінамастацтва: пошукі новых форм, тэм, моў. Фестываль уяўляе сабой творы аўтараў: іх выказванні, сэнсы, адкрытыя ў рэальнасці. Заўсёды карысна пагледзець вакол сябе, зразумець і знайсці сваё месца ў гэтай прасторы або, магчыма, не выявіць гэтага месца. І такое можа быць! Мастацтва кіно на нашым фестывалі прадстаўлена досыць прэзентатыўна: тут сапраўды прысутнічаюць не толькі новыя, невядомыя аўтары, але і рэтраспектывы тутэйшых майстроў. Таму ў каго ёсць вушы — той пачуе, у каго ёсць вочы — убачыць, у каго ёсць сэрца — адчуе. Не заўсёды атрымліваецца так, што ўплыў ідзе наўпрост. Літаральна ён не ўплывае, а змяняе нешта ў свядомасці нашых аўтараў, узбагачае іх. Усе мы жывём і вучымся на чым-небудзь. Калі ёсць у нас такія майстры, якія здольны вучыцца і адкрываць нешта новае для сябе, — гэта ўплыў!



**Ігар Сукманаў, праграмны дырэктар ігравога кіно Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад»:**

— Арганізатары разнастайных кінафестываляў наладжваюць шматлікія сустрэчы, прэзентацыі, майстар-класы і паказы інтэлектуальнага характару, якія даюць вялікі штуршок да развіцця ўласнай думкі. Так і ММКФ «Лістапад»: ён істотны для зносін, камунікацыі, абмену ідэямі, прагляду, які адчыняе акно ў іншыя прасторы і дае магчымасці для праяў унутранай свабоды. Меркаванне кожнага каштоўнае і цікавае, але толькі ў тым выпадку, калі яно суадносіцца з нейкай агульнай карцінай. Згодныя вы ці не згодныя з чым-небудзь — гэта не рынг для сутычак фізічнага кшталту, а вось на інтэлектуальным узроўні гэта цалкам прымальна. Менавіта з такой мэтай фестываль збірае разнастайнае кіно, сустрэчы — і заўсёды мае адзіны вынік — зносіны і новыя вышыні, якія бярэ чалавек.



**Алена Сцішова. адзін з найбуйнейшых кінакрытыкаў Расіі, культуролаг, кіраўнік аддзела расійскага кіно часопіса «Мастацтва кіно».**

— Сам кінафестываль выдатны. Пакуль ніякага ўплыву няма, але ж гэта не імгненна. Праз пэўны час усё адаб'ецца: магчыма, раптам паўстане нейкі «артэфакт» ці нешта зменіцца пад уплывам тых выдатных паказаў, якія ладзяць арганізатары. Фэст заслугоўвае высокай ацэнкі гасцей і крытыкаў яшчэ і таму, што любы прагляд тут, нават калі ты і не ведаеш, на што ідзеш, будзе цалкам адзінкавым (ніякай рызыкі!). Любая карціна, што дэманструецца шырокай публіцы, адбіраецца асабіста праграмнымі дырэктарамі, якія дакладна ведаюць, што паказваць: ставяць свой факсімільны подпіс пад кожнай кінастужкай.

ЗаконаТворчасць

## Беларусы ў свеце. Новая канцэпцыя

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь рыхтуецца вызначыць афіцыйны статус нашых суайчыннікаў за мяжой. Чакаецца, што ў першым чытанні праект Закона "Аб беларусах замежжа" можа быць разгледжаны дэпутатамі ўжо ў лістападзе. Пры падрыхтоўцы законапраекта выкарыстаны досвед Расіі, Украіны, Кітая, Балгарыі, Ізраіля, некаторых іншых краін.

Намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па міжнародных справах Віктар Фесак паведаміў журналістам, што гэты дакумент паступіў у парламент у жніўні. І амаль супаў па часе з правядзеннем у краіне VI З'езда беларусаў свету. Найважнейшая падзея яшчэ раз пацвердзіла: новы закон «наспеў».

Звернемся да лічбаў. Паводле розных дадзеных, на якія спаслаўся парламентарый, у свеце пражывае не меней 1,5 мільёна беларусаў. Некаторыя крыніцы ўвогуле даюць лічбу ад 3 да 3,5 мільёна. Самая шматлікая дыяспара ў Расіі, але даволі прадстаўнічая яна і ў Польшчы, Казахстане, Латвіі, Літве. Доўжаць гэты спіс Ізраіль, Аргенціна, Канада, ЗША...

Хто працуе сёння з беларускімі дыяспарамі за межамі краіны? Міністэрства замежных спраў, Міністэрства культуры, Апарат Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей. Важкі ўнёсак робіць Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Між тым, дзеючым у гэтай сферы заканадаўствам адрэгуляваны далёка не ўсе надзённыя пытанні, ёсць і пэўныя недахопы. Нават агульнага азначэння, каго варта лічыць беларусамі замежжа, як распавёў парламентарый, пакуль няма. У розных дакументах — розная трактоўка: «этнічныя беларусы», «асобы беларускай нацыянальнасці» і г. д.

Каго ж палічылі «беларусамі замежжа» распрацоўшчыкі праекта новага закона? Гэта грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць за межамі нашай дзяржавы. Замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна жывуць за мяжой, пры гэтым яны ці іх продкі па прамой узыходнай лініі нарадзіліся або пражывалі ў рэспубліцы. Яшчэ — замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна жывуць за мяжой і пачуваюць сябе беларусамі ў этнічным, моўным, культурным «кантэкстах».

Ёсць і іншыя навацыі. Праектам закона прадугледжаны парадак пацвярджэння прыналежнасці чалавека да беларусаў замежжа, меры дзяржаўнай падтрымкі беларускіх дыяспар, парадак фінансавання дзейнасці ў сферы адносін з беларусамі замежжа. У якасці адзінага дзяржаўнага органа, які будзе адказваць за каардынацыю дзейнасці іншых структур, прапануецца «прызначыць» Міністэрства замежных спраў. Кардынальнымі падаюцца і змены ў справе атрымання нашымі замежнымі суайчыннікамі беларускага грамадзянства. Абавязковы тэрмін пражывання ў Беларусі для іх будзе скарочаны ці нават цалкам адменены.

Нас стане больш?

**Інеса ПЕТРУСЕВІЧ**

Тэле-ЛіМ

## Не лянуйцеся!

На наступным тыдні тэлеканал «Беларусь 3» прапануе колькі цікавых сустрэч з айчыннымі дзеячамі культуры. 11 лістапада ў 11.10 і 22.20 вядучы Навум Гальпяровіч абмяркуе стан беларускай песні, сувязь мовы і музыкі, а таксама ўсталяванне мемарыяльнай дошкі М. К. Агінскага ў Фларэнцыі з дырэктарам Маладзечанскага музычнага каледжа імя М. К. Агінскага Рыгорам Сарокам.

У аўторак, 12 лістапада, у 10.25 і 22.25 думкамі пра сучасную літаратуру Беларусі і парадамі маладым творцам падзеліцца галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Святлана Дзянісава.

Пра тое, як захаваць гістарычныя будынкі, дзе размешчаны самыя цікавыя аб'екты ў Мінску, што чакае турыстаў на «Мінскім замчышчы», 13 лістапада ў 10.25 і 22.20 распавядзе галоўны спецыяліст па архітэктуры прадпрыемства «Мінская Спадчына» Сяргей Багласаў.

Як перамагчы ляноту? Парады ад славутага хірурга Ігара Грышына і святара з вёскі Слабада Іаана Ясюкевіча пачуеце ў праграме «Дыя@блог. Пра вечнае» 14 лістапада ў 10.25 і 22.20.

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

Водгалас

# Госці ў доме Коласа

**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбыліся традыцыйныя «Каласавіны» — 28-е рэспубліканскае свята. Сёлета яно праходзіла ў міжнародным фармаце — у рэчышчы супрацоўніцтва з кіраўнікамі і спецыялістамі мемарыяльных музеяў Украіны і Расіі.**

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Нягледзячы на немалую колькасць літаратурных канферэнцый увогуле, філалагічная грамадскасць адзінадушна падкрэслівае асаблівую атмасферу менавіта «Каласавін»: кожны адчувае тут сябе не проста ўдзельнікам, але чаканым госцем. «Кожны раз побач з намі — Якуб Колас, ён радуецца нашай радасці, таму што з кожным годам колькасць людзей, якія хінуцца да яго слова, не памяншаецца, а павялічваецца», — падкрэсліла дырэктар музея Зінаіда Камароўская. Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў, які прыйшоў павітаць свята, адзначыў: «Свята «Каласавіны» — не столькі даніна памяці вялікаму паэту, колькі жывая плынь, якая адлюстроўвае прыярытэты грамадства. Пры жыцці паэта яго дом быў грамадскім цэнтрам, які прыцягваў літаратараў, культурных і дзяржаўных дзеячаў, — і сёння ён выконвае тую ж ролю».

Сёлетняя канферэнцыя прысвечана 90-годдзю выхаду з друку паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» і насіць назву «Зямля — аснова ўсёй Айчыне». Адпаведна, большасць навукоўцаў і творцаў засяродзіліся менавіта на гэтым тэзісе і гэтай тэме. «Паэма «Новая зямля» — выключная з'ява ў творчасці Якуба Коласа. Тут ён здолеў паказаць асаблівасці беларускай ментальнасці, прыгажосць беларускага слова і хараство беларускай прыроды. Са старонак паэмы відавочна паўстае аптымізм беларуса — тое, што вылучае яго сярод іншых славян: здольнасць спадзявацца толькі на сваю працу і яе вынікі», — падкрэсліў член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар філалагічных навук Аляксандр Лукашанец.

Да 131-га нараджэння народнага песняра супрацоўнікі яго дома-музея прымеркавалі шэраг навацый у экспазіцыі. У фае адкрылася інтэрактыўная зона, дзе кожны госць-наведвальнік можа самастойна пазнаёміцца з біяграфіяй паэта, месцамі яго жыцця і дзейнасці, узяць удзел у віктарынах, а таксама сфатаграфавацца на памяць. Менавіта днямі апрабавана агучванне Коласавага асабістага пакоя — таго самага, дзе ён працаваў і дзе 13 жніўня 1956 года перастала біцца яго сэрца. Пра апошнія хвіліны распавядуць гукі, якія іх суправаджалі...



Фота Кастуся Дробава

*«Каласавіны» вітае міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў.*

# Адзін на ўсіх

**Урачыстае адкрыццё манумента ў гонар пісьменніка, этнографа і рэвалюцыйнага дзеяча Адольфа Янушкевіча, прысвечанае 210-годдзю з дня яго нараджэння, прайшло ў вёсцы Дзягільна Дзяржынскага раёна. Менавіта тут, на сямейных могілках, спачывае наш знакаміты зямляк.**

**Раіса МАРЧУК**

Адольф Янушкевіч зрабіў значны ўнёсак у культуру адразу некалькіх народаў: беларусаў, рускіх, палякаў, англічан, украінцаў і казахаў, якіх у XIX стагоддзі называлі кіргізамі. Яго ўражанні ад вандровак па прасторах Сярэдняй Азіі, каларытныя расповеды пра паўсядзённае жыццё казахаў утрымліваліся ў лістах да родных, якія жылі ў Дзягільне. Частку яго пісем у вершаванай форме, са згоды аўтара, выкарыстаў у сваёй паэме польскі паэт Густаў Зеліньскі. Найбольш яркія допісы былі апублікаваны ў 1875 годзе ў Берліне на польскай мове ўжо пасля смерці А. Янушкевіча. У савецкі час яго лісты на рускую мову пераклала Фаіна Сцяклова і апублікавала ў Алма-Аце. Казахскі пераклад не так даўно з'явіўся ў Астане.

Удзел у гэтым мерапрыемстве браў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь Ергалі Булегенаў і госці з Казахстана. Спадар Пасол падкрэсліў, што ў яго краіне памятаюць і свята шануюць імя Адольфа Янушкевіча, які не па сваёй волі аказаўся ў ссылцы на іх зямлі. Яго запісы, зробленыя ў перыяд з 1833 па 1840 год, маюць вялікую каштоўнасць, бо аўтар занатаваў на паперы ўсё, што бачыў і чуў навокал. «Упэўнены, памяць пра вашага выбітнага земляка назаўсёды захаваецца і ў Казахстане, і ў Беларусі», — зазначыў Ергалі Булегенаў.

На могілках у Дзягільне была закладзена Алея памяці. На ўрачыстасці таксама прысутнічалі дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, пісьменнікі, навукоўцы, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі і СМІ.



Фота Наталлі Грацэўскай

*Прамаўляе Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь Ергалі Булегенаў.*

— Вельмі прыемна, што праз нашага земляка мацнее сяброўства, якое даўно наладжана паміж двума народамі, — распавёў першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў. — У савецкі час было працэй: праходзілі Дні казахскай літаратуры ў Беларусі, беларускай — у Казахстане. Не так даўно мы сустракалі ў Саюзе пісьменнікаў вядомага казахскага паэта Алжаса Сулейменава, а прадстаўнікі СПБ пабывалі на з'ездзе Саюза пісьменнікаў Казахстана.

У той жа дзень у Дзяржынскай цэнтральнай раённай бібліятэцы прайшлі «Койданаўскія чытанні», якія дзякуючы намаганням дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Уладзіслава Цыдзіка набылі міжнародны фармат.

Імпрэзы

# Агеньчык палае...

**Паэтычна-музычная імпрэза «Агонь гарачай веры, ён не згас» адбылася ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. Вечарына была прысвечана творчасці паэта на старонках часопіса «Полымя».**

**Ганна ПАЛЯКОВА**

Эпіграфам да сустрэчы паслужылі радкі з верша Максіма Багдановіча «Разгарайся хутчэй, мой агонь, між імглы...» Верш яскрава адлюстроўвае творчы лёс старэйшага літаратурнага часопіса ў Беларусі — «Полымя».

Часопіс быў заснаваны ў 1922 годзе, а распаліў гэтае «полымя» вядомыя беларускія пісьменнікі і паэты. На старонках выдання ўпершыню ўбачылі свет творы класікаў нашай літаратуры: Рыгора Барадуліна, Васіля Быкава, Кандрата Крапівы, Ніла Гілевіча, Уладзіміра Караткевіча, Янкі Брыля. Многія з аўтараў былі сябрамі Максіма Багдановіча: Змітрок Бядуля, Цішка Гартны, Аркадзь Смоліч.

На імпрэзе гучала паэзія Максіма Багдановіча ў цудоўным выкананні народнай артысткі Беларусі Марыі Захарэвіч. Можна было атрымаць асалоду ад спеваў артысткі Беларускай дзяржаўнай філармоніі Таццяны Матафонавай, якая выканала песні «Зорка Венера» і «Пагоня».

Гарыць «Полымя» і сёння. На імпрэзе прысутнічалі сучасныя аўтары часопіса «Полымя», аматары і даследчыкі творчасці М. Багдановіча. Сярод іх — Уладзімір Скарынкін, Анатоль Бутэвіч і Сяргей Панізнік. Удзельнікі сустрэчы ўзгадалі некаторыя моманты творчага і жыццёвага шляху паэта.

Дарэчы, сам Максім Багдановіч, як пісаў пра яго адзін з крытыкаў, адводзіў сабе месца маленькага «агеньчыка». Сапраўдныя геніі заўсёды сціплыя.

Масты дружбы

# Пачуць Кыргызстан

**З новых кніг серыі «Сугучча сэрцаў» — кыргызстанскі томік прозы і паэзіі.**

**Мікола БЕРЛЕЖ**

Да чытача, які яшчэ, магчыма, цікавіцца развіццём літаратур на постсавецкай прасторы, прыйшлі вершы, урыўкі з раманаў, апавяданні Мара Байджыева (урывак з «Казання пра Манаса»), Рахіма Карымава, Вячаслава Шапавалава, Турусбека Мадылбая, Тазагуль Закіравай, Кадыркула Амаркулава, Нурлана Калыбекава, Туленды Курманаліева, Святланы Суславай. Беларускую частку кнігі склалі творы Вячаслава Адамчыка, Барыса Бяляжэнкі, Аляксея Дударава, Мар'яна Дуксы, Уладзіміра Навумовіча, Сяргея Кавыцкі, Аляксандра Брыта, Паўла Вераб'ёва, Раісы Дзейкун.

Беларуска-кыргызскія сувязі ў галіне літаратуры традыцыйна развіваліся ў добрым рэчышчы. Пакыргызску яшчэ дзесяцігоддзі таму загучалі вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова... У Беларусі перакладчыкамі кыргызскай паэзіі выступілі Максім Танк, Рыгор Барадулін, Сяргей Дзяргай, Уладзімір Шахавец... Тэма даследавання беларускай культуры і літаратуры ў Кыргызстане неаднойчы ўздымалася ў самых розных беларускіх выданнях, у тым ліку — у энцыклапедычных: «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі», «Янка Купала», «Беларуская Энцыклапедыя»...

Пра аднаго з аўтараў кнігі — Вячаслава Шапавалава — яшчэ шмат гадоў таму пісалі: «Паэзія Шапавалава — ахвярная спроба захаваць агульную культурную прастору... Галоўнымі тэмамі яго вершаў і паэм сталі: час, гісторыя, душа, народ». Нагадаем, народны паэт Кыргызстана, аўтар паэмы «Нараджэнне манасчы» (пра эпас «Манас») Вячаслаў Шапавалаў — яшчэ і аўтар больш як 30 кніг мастацкага перакладу, чалавек, які сапраўды злучае культуры, народы. Яшчэ з перакладчык паэзіі народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна на рускую мову. Цікавы факт, пагадзіцеся: народны паэт іншанацыянальнага свету, які піша па-руску, уважлівы да далёкай Беларусі, да творчага свету другога вялікага паэта, узнаўляе яго мастацкі пошук на мове Пушкіна і Някрасава...




Беларуска-кыргызская кніга з серыі «Сугучча сэрцаў» носіць сімвалічную назву «Живое слова» і нагадвае пра многія факты міжлітаратурных зносін. Па традыцыі ўкладальнікам зборніка стаў намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» — галоўны рэдактар часопіса «Нёман» паэт Алесь Бадак. «Работа над серыяй «Сугучча сэрцаў», — гаворыць творца, — прынесла мне найвялізнейшую асалоду знаёмства з іншым мастацкім светам. Мяркую, што ў кніг будзе і свой чытач...» Спадзяюцца на гэта і ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі, Выдавецкім доме «Звязда», збіраючыся працягваць працу па знаёмстве з літаратурамі краін СНД. Між іншым, у выдавецкіх планах — стварэнне серыі кніг, якія прадстаўляць дзіцячыя літаратуры народаў СНД... Некалі шмат у гэтым кірунку было зроблена выдавецтвам «Юнацтва». Наспела пара ўзнавіць ранейшыя традыцыі і іх развіваць.

## Асветніка не стала



Нечакана памёр наш даўні сябар, прыхільнік, аднадумца, ганаровы госць ІІ з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня Балгарскага саюза пісьменнікаў, дэпутат Парламента Балгарыі, таленавіты празаік Нікола Пецэў. Не стала асветніка, славянафіла, які ўсё жыццё служыў літаратуры, высокім ідэалам гуманізму. Сваёй творчай працай, грамадзянска-патрыятычнай дзейнасцю ён узвышаў годнасць балгарскага народа. Смела асуджаў тых, хто разбураў каштоўнасці, набытыя народам у вяках, навязваючы грамадству цынізм, глумленне над гісторыяй.

Бывай, дружа. Твая зорка на высокім небасхіле сусветнай культуры не згасне. Дабро несмяротнае.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі**

## Чаму я супраць?

**Нікола ПЕЦЭЎ**

Таму, што гэты свет мне не падабаецца. І гэта зусім не фанабэрыя з майго боку. Не пыхлівасць. Гэта натуральна.

Гэты свет мне не падабаецца:
таму, што ён не любіць чалавека;
таму, што балгарын прыніжаны;
таму, што мы не нараджаем дзяцей;
таму, што адбываецца падмена духоўных каштоўнасцей матэрыяльнымі;
таму, што патрабуе ад нас павыстаўляць усё на продаж;
таму, што нам даводзіцца любіць Расію нелегальна;
таму, што ахалоджвае цеплыню чалавечых адносін;
таму, што мае толькі багатых за людзей, а бедных — за насельніцтва;
таму, што хоча адвучыць нас шукаць і знаходзіць справядлівасць;
таму, што падмяняе любоў здрадай. Думаеш, што размаўляеш з Хрыстом, а ён Іуда;
таму, што забівае мары;
таму, што вынішчае святыя паняцці;
таму, што кідае шалёныя грошы на спустошванне мастацтва, абы толькі зрабіць людзей больш прымітыўнымі — такімі лягчэй маніпуліраваць;
таму, што імкнецца напаўняць нашы душы цынічнымі лозунгамі;
таму, што сутыкае рэлігіі, замест таго каб ператварыць Птушыны Шлях у вартае найвышэйшай пашаны паняцце для ўсяго чалавецтва;
таму, што ахінае нас галечай;
таму, што спрабуе закрэсліць памяць;
таму, што хоча задушыць нашу надзею.
Гэты свет трэба змяніць.

**Пераклад на беларускую Ірыны Качатковай**

Прэзентацыя

# І сведкі гістарычных падзей

**Пры канцы кастрычніка Выдавецкі дом «Звязда» сумесна з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі правёў прэзентацыю кнігі Віктара Корбута «Минск. Лучший вид на этот город».**




*Фота Кастуся Дробава*

У названае выданне ўвайшлі артыкулы, урыўкі з інтэрв'ю, карэспандэнцыяў і рэпартажаў, падрыхтаваных аўтарам на працягу некалькіх гадоў. Віктар Корбут пабываў на археалагічных раскопках, у майстэрнях мастакоў і рэстаўратараў, гутарыў з гісторыкамі і дзеячамі культуры, сустракаўся са сведкамі гістарычных падзей. Некаторыя прысутнічалі на прэзентацыі: Вальмен Аладаў, Аляксандр Акенцьеў, Надзея Высоцкая, Уладзімір Мехаў, Эмануіл Іофе, Сяргей Багласаў.

Намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша падчас свайго выступлення распавёў пра актуальныя пытанні сучаснага грамадства, стаўленне да айчыннай гісторыі. У сваю чаргу, сам журналіст прыгадаў шмат цікавых фактаў, якія не ўвайшлі ў кнігу, а таксама лепшы від на сталіцу з яго пункту гледжання.

Дарэчы, адказ знаходзіцца на вокладцы кнігі, а дакладней — на карціне беларускага мастака Мая Данцыга: не забудаваная да канца Няміга.

Успаміны пра мінулае не пакідаюць і Ірыну Варанкову, старшага навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, даследчыка перыяду Вялікай Айчыннай вайны, першых дзён акупацыі Мінска. Яна пазнаёміла публіку з часцінкай уласнай гісторыі: ад маці ёй застаўся маленькі альбом з фотаздымкамі старога Мінска.

Сустрэча падарыла прысутным шмат прыемных уражанняў. Усе жадаючыя пакінулі свае аўтографы і пажаданні ў прэзентаванай кнізе.

**Анастасія ЦІХАНЧУК**

# «Маладосць» у Маладзечне

**Жартам кажучы ці ўсур'ёз, але паэтычная імпрэза, якая ў апошні кастрычніцкі вечар прайшла ў малой зале Палаца культуры Маладзечна, магла б называцца і трошкі інакш.**

«"Шляхамі маладосці" ці "Шляхамі "Маладосці"»? — дапытваліся ў рэдакцыі, збіраючыся на мерапрыемства, так бы мовіць, пашыраным складам: супрацоўнікі плюс аўтары. Калі ж дзеянне пачалося і «Маладосць» «запаліла» сэрцы сваёй прысутнасцю, так і хацелася нанесці на экран і фон карэктарскія праўкі — узяць апошняе слова ў двукоссе і прымусіць *літару* «М» *літаральна* «падскочыць».

Чыталі вершы: аўтарка самага свежага нумара Яна Явіч — жыццёвыя, філасофскія, «рэчаісныя», Аліса Мініна, якая яшчэ чакае публікацыі, — лірычныя, пра лыжачкі і ложкі, каханне роўна ў дваццаць і іншыя «аспекты забыцця», Ірына Чарняўская, рэдактар аддзела паэзіі, — пра восень, таксама каханне (куды без яго?), а яшчэ — пра збітыя рыфмы, сумненні і... метал, што ржавее ад слёз. Віктар Лупасін задаў іншы тон — «дапатопны»: чытаючы вершы пра мамантаў, дыназаўраў і кайназойскую эру, усіх павесяліў. Паветрана-натхняльныя хвіліны падарыў публіцы добры сябар «Маладосці» Мікіта Найдзёнаў. Ён, лідар гурта HURMA, журналіст, паэт і радыёвядучы, спяваў і пра радыёхвалі, і пра рэтра, а галоўнае — пра сэрца, што кажа: «Так, так, так».

Так, «Маладосць» — гэта модна.

Зрэшты, і другая частка вечара, прысвечанага маладосці душы, не-не ды перапляталася з «Маладосцю»-часопісам. Бо мала хто з таленавітых гасцей праграмы ў «Маладосці» не друкаваўся.

Увогуле, атрымалася хораша. Рагнед Малахоўскі чытаў свае вершы, Дзмітрый Пятровіч — спяваў свае... Марына Лайкова і Анастасія Шарко надалі сваёй паэзіі гучанне музыкі, а музыку, у сваю чаргу, напоўнілі сапраўднай паэзіяй. Лаўрэат прэміі «Залаты купідон» у намінацыі «Песенны жанр» Таццяна Атрошанка — гаспадыня вечара і кіраўнік літаб'яднання «Агмень» — таксама падарыла гледачам і слухачам хвіліны замілавання, натхнення, радасці і паўнюткага шчасця.

Ці зручна гэта, ці ўтульна: тумановым вечарам, позняй восенню выбірацца з дому і ісці «ў людзі» — слухаць паэтаў і бардаў сталіцы і ваколіцы? Ці застанецца тое, што пачуецца? Хто ведае... Але ж тумановым вечарам позняй восені людзі выбраліся з дому і пайшлі — слухаць паэтаў і бардаў.

Часам так бывае: пра нешта добрае хочацца мець на ўспамін нейкі знак. Кожны ўдзельнік яго атрымаў — у выглядзе зборнічкаў паэзіі і дыскаў з добрай музыкай, што, трэба верыць, і дома ці ў аўто запаліць сэрцы трапяткім агнём. Арганізатары — «Агмень» — паклапаціліся. Новых ім поспехаў і сустрэч!

**Святлана ВОЦІНАВА**

## Яго дарога за небакрай



У багатым на літаратурныя таленты краі — Уздзеншчыне — нарадзіўся ў 1950 годзе Мікалай Кароль. Са школьных гадоў ён быў неабыякавым да характа роднага слова. Гэта і прывяло яго на журфак Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Повязь з беларускім Словам, якая пачалася ў Уздзенскай раённай газеце «Чырвоная зорка», прадоўжылася ў «Мінскай праўдзе», дзе ён працаваў намеснікам галоўнага рэдактара і якой аддаў амаль 15 гадоў, прынесла добры плён. Потым — супрацоўнік «Рэспублікі», «Белорусской нивы». Выдатны публіцыст, ён пісаў грунтоўныя аналітычныя артыкулы і рыхтаваў да выдання чарговы паэтычны зборнік «Дарога за небакрай», які выйшаў з друку незадоўга да смерці.

Мікалай Вікенцьевіч доўга і цяжка хварэў, змагаўся за жыццё і... па-ранейшаму працаваў.

Светлая памяць пра таленавітага журналіста, пісьменніка, выдатнага чалавека Мікалая Караля назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# Народнае — па-еўрапейску?

Пачатак XX стагоддзя заўсёды будзе прываблiваць даследчыкаў як час станаўлення беларускай дзяржаўнасцi. Але каб адстойваць магчымасць самастойнасцi Беларусi, неабходна было засведчыць наяўнасць уласнай гiсторыi, культуры, мовы, узяцца за справу асветы. Абсяг працы меўся шырокi, таму натуральна, што дзеячы нацыянальнага адраджэння займалiся «ўсiм i адразу», звяртаючыся як да публiцыстыкi, так i да мастацкай творчасцi — каб уплываць на фармiраванне грамадскай думкi i артыкуляваць уласныя погляды. Тагачасных беларускiх пiсьменнiкаў яднала вялiкая любоў да Беларусi i не менш вызначальная мара пра Беларусь, якая пры iх жыццi i ў значнай ступенi iх намаганнямi пачала ўвасабляцца. Адной з самых яркiх постацей у нашай культуры пачатку XX стагоддзя быў Вацлаў Ластоўскi, якi паводле найбольш верагоднай версii нарадзiўся 130 гадоў таму, 8 лiстапада 1883 года.




## ГІСТОРЫК І КНІЖНІК

Тыя, хто знаёмiўся з творчасцю В. Ластоўскага не па хрэстаматыях цi манаграфiях, напэўна, ведаюць яго ў першую чаргу як аўтара «Кароткай гiсторыi Беларусi». Зразумела, падзеi, якiя адбывалiся на нашых землях, i асобы, якiя бралi ў iх удзел, звярталi на сябе ўвагу многiх гiсторыкаў. Перад Ластоўскiм стаяла надзвычай важная задача: аб'яднаць вядомыя факты ў адно цэлае, стварыць уласную (i першую!) канцэпцыю гiсторыi Беларусi.

«Гiсторыя — гэта фундамэнт, на катором будуецца жыцьцё народу. I нам, каб адбудаваць сваё жыцьцё, трэба пачынаць с фундамэнту, каб будынак быў моцны. А фундамэнт у нас важны, гiсторыя наша багата…» — так пачынаў сваю кнiгу В. Ластоўскi.

Ён i надалей цiкавiўся беларускай мiнуўшчынай больш за iншых тагачасных пiсьменнiкаў: неаднойчы звяртаўся да гiстарычных сюжэтаў на старонках «Нашай Нiвы», змяшчаў нататкi пра цiкавыя факты ў «Крывiчы», працаваў над «Нарысамi беларускай гiсторыi», што пабачылi свет толькi ў 2003 годзе пад назвай «Кароткая энцыклапедыя старасвеччыны». У 1926 годзе, праз 16 гадоў пасля выдання «Кароткай гiсторыi Беларусi», выйшла з друку яшчэ адна праца В. Ластоўскага, якая мела выключнае значэнне для нашай культуры, — «Гiсторыя беларускай (крыўскай) кнiгi».

Як зазначае ўкладальнiк Алесь Суша ў прадмове да факсiмiльнага выдання, В. Ластоўскi «планаваў праз кнiжную спадчыну Беларусi паказаць багацце i старажытнасць айчыннай культуры ў цэлым. Ён ствараў не проста гiсторыю беларускай кнiгi, але i гiсторыю культуры Беларусi, у якой кнiгадрукаванне, лiтаратура, выяўленчае мастацтва. навука, адукацыя, фiласофiя, мова, рэлiгiя з'яўляюцца ўзаемазвязанымi элементамi агульнай сiстэмы, разглядаць якiя паасобку проста бессэнсоўна».

«Гiсторыя беларускай (крыўскай) кнiгi» i сёння выклiкае павагу: «паясьнiцельная кнiгопiсь» па сутнасцi з'яўляецца даведнiкам, каталогам, дзе ў храналагiчнай паслядоўнасцi змешчаны апiсаннi прыкладна тысячы друкаваных выданняў i рукапiсных помнiкаў канца X — пачатку XIX ст., ад летапiсаў i евангелляў да невялiкiх граматак. Пасля апiсання В. Ластоўскi — па магчымасцi — змяшчаў урывак тэксту альбо выяву старонкi: непасрэдная праца над «Гiсторыяй…» адбывалася ў Коўне, таму з iлюстрацыйным матэрыялам было складана, i помнiкi пiсьменства былi прадстаўлены ў розным аб'ёме: аўтар пераважна абмяжоўваўся фрагментамi тэкстаў, але, напрыклад, «Летапiсец вялiкiх князёў лiтоўскiх» змешчаны ў кнiзе цалкам. В. Ластоўскi выдатна разумеў, што на 770 старонках нельга прадставiць усе кнiжныя помнiкi Беларусi, але справа мела прынцыповы характар — трэба было адстойваць гонар беларускай культуры i «паказаць, што пiсьменнасць крыўскага народа па сваёй даўнасцi сягае X стагоддзя, а па багаццю помнiкаў займае першае месца на ўсходняй славяншчыне».

## СЛОЎНІК ЯК ЛІТАРАТУРНЫ ТВОР

Знакамiтая адметнасць В. Ластоўскага — гэта адмысловая мова яго твораў. Уважлiвае стаўленне пiсьменнiка да роднай мовы — хутчэй правiла, чым выключэнне, але захапленне В. Ластоўскага дыялектызмамi i наватворамi, здаецца, мела вынiкам выпрацоўку уласнай, аўтаномнай моўнай сiстэмы. Аўтарскiя неалагiзмы былi не ў навiну для лiтаратуры пачатку XX стагоддзя, але пераважна выкарыстоўвалiся для наймення новых з'яў альбо для дасягнення семантычнай ёмiстасцi i эмацыянальнай насычанасцi. В. Ластоўскi як стваральнiк новых слоў глядзеў не наперад, а ў глыбiню, у мiнуўшчыну, ён марыў пра ўзнаўленне дахрысцiянскай, крыўскай мовы, «калi кожнае паняцце будзе перакладзена згодна псiхiцы нашай мовы, калi формы слоў i будова сказаў будуць адпавядаць законам гармонii, пераказаным нам ад нашых прапрашчураў».

У iдэале мова павiнна быць зразумелай для ўсiх яе носьбiтаў, але верагоднасць таго, што чытач не здолее вызначыць сэнс пэўнага слова цi выразу, не абмяжоўвала пiсьменнiка, i пры стварэннi уласных твораў ён пачуваўся вельмi свабодна. На шчасце, В. Ластоўскi выдаў «Падручны расiйска-крыўскi (беларускi) слоўнiк», якi, дарэчы, дапамог расчытаць i яго уласныя тэксты. Паводле даследчыка Юрася Пацюпы, «працу Ластоўскага трэба ўспрымаць як лiтаратурны твор i, адпаведна, як важнае жарало да пазнання беларускае мовы, а таксама творчасцi самога аўтара».

> *Ён марыў пра ўзнаўленне дахрысцiянскай, крыўскай мовы, «калi кожнае паняцце будзе перакладзена згодна псiхiцы нашай мовы, калi формы слоў i будова сказаў будуць адпавядаць законам гармонii, пераказаным нам ад нашых прапрашчураў».*

Найбольш адмысловымi з'яўляюцца ягоныя вершы — самы прыватны вiд лiтаратурнай творчасцi, якi не абавязкова прадугледжвае чытача. У паэзii В. Ластоўскi не iмкнуўся да лёгкасцi радка, яго вершы — паважныя, цягучыя, цяжкаватыя — нагадваюць старажытныя гекзаметры. Аўтар не баiцца збегаў зычных, шукае доўгiя словы, каб расцягнуць стапу, падалей паставiць нацiск — таму мiж моцнымi складамi звычайна знаходзяцца тры-чатыры слабыя пазiцыi. У адной з нядаўнiх лiмаўскiх публiкацый Марына Весялуха абмяркоўвала гарадскую тэматыку паэтычных твораў В. Ластоўскага, i цiкава адзначыць, што Я-герой, якi трапляе ў Смаленск, Полацк, Кёльн, Венецыю, Геную, не заўважае вакол сябе сучаснасцi — затое настойлiва згадвае мiнулае i праводзiць гiстарычныя паралелi.

## МІСТЫЧНЫЯ «ЛАБІРЫНТЫ»

Сваю працу на нiве беларушчыны В. Ластоўскi распачаў як празаiк, але мастацкiя творы складаюць толькi палову яго творчага даробку. Хутчэй за ўсё, Ластоўскi выдатна разумеў, што заняткi беларускай лiтаратурай маюць сэнс толькi тады, калi Беларусь сцвердзiцца як незалежная краiна — у адваротным выпадку i «Наша Нiва», i «Гоман», i «Маладая Беларусь», i «Сваяк» захлынуцца ў хвалях часу. З iншага боку, «нашанiўцы» ў любым выпадку засталiся б *пачынальнiкамi*, што гарантавала ўвагу да iх асоб незалежна ад памеру творчай спадчыны. Таму даволi шмат часу В. Ластоўскi прысвячаў грамадскай i палiтычнай дзейнасцi.

Самы папулярны сёння мастацкi твор В. Ластоўскага — гэта, напэўна, аповесць «Лабiрынты». Тут пiсьменнiк выявiў свой высокi iнтэлектуальны ўзровень i добрае веданне масонскiх абрадаў, а таксама выкарыстаў народныя паданнi пра падземны горад, якiя, «здаецца, нiдзе не апавядаюцца з такой бязмежнай верай i рэальнасцю, як у Старым Пагосце». Добра праглядаюцца ў творы паралелi з абрадам пасвячэння ў вучнi масонскага брацтва: заблытаныя пераходы, цемра (слепата), нядаўнi знаёмы Падземны чалавек, якi апынаецца ў труне, а потым знiкае i ажывае, таемная зала, схаваная ад недасведчаных…

У аповесцi В. Ластоўскi дапускае магчымасць рэальнага iснавання падземнага горада, якую абгрунтоўвае аматар-археолаг Iван Iванавiч. Праўда, герой не бачыць на ўласныя вочы нiчога з апiсаных дзiвосаў i толькi чуе «цiхi харальны спеў», растлумачаны як спевы старцаў з падзямелля. Наяўнасць у аповесцi чароўных хiмiчных элементаў гетыну i крывiну даюць магчымасць звязваць «Лабiрынты» з навуковай фантастыкай, якая на пачатку XX стагоддзя толькi бралася ў рост. Аповесць завяршаецца паведамленнем пра смерць праваднiка Iвана Iванавiча, што надае твору яшчэ больш мiстыкi.

## ПОЗІРК У ГЛЫБІНЮ

Нiхто з беларускiх празаiкаў пачатку XX стагоддзя не быў такiм разнастайным, як Вацлаў Ластоўскi — ад пачатку працы ў «Нашай Нiве» да апошнiх нумароў «Крывiча» ён пiсаў у двух кiрунках, якiя лiчацца супрацьлеглымi. Як i Максiм Багдановiч, В. Ластоўскi iмкнуўся, каб беларускую лiтаратуру можна было мераць «меркай еўрапейскай» — i ў многiх творах арыентаваўся на тагачасную еўрапейскую лiтаратуру. Адсюль — багатая вобразнасць i схiльнасць да супрацьпастаўленняў, узнёсласць i выкшталцонасць мовы, напружанасць i нервовасць, рамантычнасць i рамантызм. На чацвёртым годзе выдання «Нашай Нiвы», калi беларуская мова, здаецца, была ўвогуле нераспрацаванай, В. Ластоўскi пiсаў прыгожа, квяцiста i пышна, i былi ў яго творах перлы ды ружы, багiнi ды гiмны, iльдзiстыя слёзы ды шэрыя злыя вочы.

М. Багдановiч лiчыў абразкi В. Ластоўскага найбольш падобнымi да вершаў у прозе i адзначаў, што ён «моцна нагадуе польскiх мадэрнiстаў». Але мiж «Краскамi» i «Апаўшым лiсцем», змешчанымi адпаведна ў 36-м i 40-м нумарах «Нашай Нiвы», тым жа вераснем 1910 года з'яўляецца апавяданне «Мост у Кутах» — твор зусiм iншага кшталту. Здаецца, беларускай лiтаратуры вельмi не хапала перлаў i гiмнаў, але ў апавяданнях, блiзкiх да сказаў, былiчак, показак, анекдотаў, В. Ластоўскi ў ахвяру прыгажосцi заўважае шмат адмысловага ў характары беларусаў, дзелiцца трапнымi назiраннямi над народным жыццём. Рыгор i Тамаш з «Моста ў кутах» нiяк не могуць адбудаваць новы мост без загаду i лаянкi «вурадніка», а абразок «Аб сытой свiннi» хоць зараз просiцца на старонкi жаночага часопiса. Пераважна гумарыстычныя «бытавыя апавяданнi» напiсаны спакойна, разважлiва, простай мовай, тут няма высакародных герояў i напятых пачуццяў. У адных творах пiсьменнiк арыентаваўся на ўзоры еўрапейскай лiтаратуры, у iншых — на фальклорныя жанры, i гэта размежаванне ўласцiва як для паэзii, так i для прозы В. Ластоўскага.

М. Багдановiч у «Забытым шляху» (1915) заклiкаў «вучыцца ў народа, навыкаць да яго творчаскiх падходаў», але яшчэ раней, у 1911 годзе, В. Ластоўскi ў артыкуле «Аб патрэбе стылю ў жыццi народа» пiсаў пра стыль як душу народа i стыльнасць — «адбiццё нашай душы на нашых творах», пра неабходнасць «берагчы i захоўваць, а хто дуж — развiваць i шырыць сваю родную асобнасць, арыгiнальнасць». На пачатку XX стагоддзя народ падаваўся нейкай самабытнай, адметнай, цэласнай i надзвычай каштоўнай субстанцыяй, у якую залiчвалiся галоўным чынам сяляне i выхадцы з вёскi, прычым пiсьменнiкi разважалi пра народ крыху збоку i зверху i адчувалi пэўную адмежаванасць. Сёння канцэпт народа мае некалькi iншы змест, таму праблема «народнага духу» ўяўляецца даволi далёкай (магчыма, менавiта з гэтай кропкi трэба пачынаць разважаннi пра пераемнасць традыцый).

Затое для многiх пiсьменнiкаў пачатку XX стагоддзя было вельмi важна напiсаць «народным стылем», але «па еўрапейскай мерцы» — i ў В. Ластоўскага гэта выдатна атрымалася ў шматлiкiх легендах i паданнях, а таксама ў апавяданнi «Дудар», якое вельмi нагадвае «Ладдзю роспачы» Уладзiмiра Караткевiча. Падабенства абумоўлена не толькi сюжэтам (беларус пасля смерцi трапляе ў прыгоду i вяртаецца на зямлю), але i спалучэннем узнёсласцi i добрай усмешкi, патрыятычнай iдэi i думак пра вечнае. В. Ластоўскi нiбыта адгадаў У. Караткевiча i ў апавяданнi «Часы былi трывожныя», i ў вершаваным драматычным абразку «Адзiнокi», прысвечаным Францыску Скарыне. Зрэшты, пры iншых гiстарычных варунках два пiсьменнiкi маглi нават сустрэцца i сябраваць.

*Шмат што якое*
*мной ўскалыхана, шмат i зярнятак*
*кволых, быць можа, кiнута мною:*
*у шчырым iмкненнi шчыра клаў датак…*
*Стрэў жа ў адплату посык змяiны,*
*напасць нiкчэмну, зайздрасць i здраду,*
*стаў прад людзямi вiнен бязвiнна…*
*Колькi балота, подласцi, яду!..*

Так прамаўляў Вацлаў Ластоўскi вуснамi Скарыны, якi сузiраў спальванне ўласных кнiг на вогнiшчы ў Вiльнi.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# «…На неба вяртаецца маладзік»

Пісаць пра творчасць паэта, у часы якога давялося жыць, хутчэй няпроста. У працах такога кшталту заўсёды прысутнічае думка «навырост», застаюцца нявыказанымі аўтарскія планы надалей. А вы самі, завочна ці не, пад наглядам галоўнага суддзі і цэнзара — паэта.




У апошнія гады многія творы Алеся Разанава сталі перавыдавацца: згодна з аўтарскай задумай яны афармляюцца ў асобныя кнігі паводле жанравай прыналежнасці. Застаючыся верным сваёй ідэі, Алесь Разанаў кожную з іх аздабляе філасофскім «лагатыпам», якія распрацоўвае сумесна з Віктарам Маркаўцом (серыі «Функцыянальныя кантэксты», «Манвантара», «Ісвы»). Кнігу «Воплескі даланёю адною» ўпрыгожвае выява маладзіка.

Названая кніга атрымалася цалкам новай, нязменным застаўся толькі жанр, у якім напісаны творы, — пункціры. Адкуль гэты жанр?! Аднойчы ў размове Алесь Разанаў нагадаў, што «класічны верш ці версэт, вершаказ ці пункцір, квантэма ці зном — я іх не выдумляю. Яны проста хацелі ўзнікнуць у гэтай сустрэчы гука і сэнсу. Таму што, калі сустракаюцца гук і сэнс, яны хочуць праявіцца. У чым? У творах, у творчасці…» Паспрабуем яшчэ раз прачыніць дзверы ў тую творчую прастору, сакральную, літургічную, дзе сустракаюцца гэтыя пачаткі — гук і сэнс, у якой, як абвяшчае сам паэт, «няма насельнікаў, няма жыхароў, і аўтары там не жывуць. Яны толькі, як святары ў храме, маюць дачыненне да той з'явы, якая за тымі дзвярыма можа дзейсніцца».

Нагадаем, пункціры калісьці былі эксперыментатарскім, новым жанрам, у якім распачаў працу Разанаў. Яны блізкія да японскіх хоку і літоўскіх карацелек. Аднак, звярнуўшыся да гісторыі развіцця жанраў, цяжка адшукаць абсалютна аднолькавыя: іх проста не існуе. Так, хоць фармальна хоку і пункціры вельмі падобныя, яны адносяцца да розных форм верша. Хоку, альбо хайку, уяўляе сабой усечаную форму танка, якая належыць да ўсходняй паэзіі і поруч з рубаі, айрэнам і іншымі адносіцца да цвёрдых форм верша. Разанаўскі жанр адносіцца да неўрэгуляванай формы. Пункцір — гэта від свабоднага верша. Аднак для самога паэта не так істотна, «колькі чаго ў гэтым жанры, больш паэзіі ці прозы. Істотна тое, каб сэнс нейкім чынам выявіўся. Але ён ніколі не можа выявіцца да канца. Ён толькі можа выявіцца сваімі фрагментамі, сваімі патэнцыямі». Пункцір і ёсць фрагмент, успышка, промень, маланкавы зігзаг, што быў і ўжо няма. Пункцір поўны сэнсу і сам ён ёсць, як сцвярджае Алесь Разанаў, «сэнс рухомы. Каб быў нерухомы, то былі б ужо зацверджаны яго каноны, як калісьці былі зацверджаны каноны жанраў. Магчыма, яны занадта зацверджаныя, і з'ява творчасці ніколі не ўкладзецца ў зацверджаныя каноны жанраў. Яна будзе зашкальваць, пераўзыходзіць, увасабляцца ў нешта, што дагэтуль, можа, не існавала».

Зварот паэта да пункціраў можа быць прадыктаваны і тым, што ён сам працаваў з хоку — перакладаў ці, больш дакладна, пераствараў іх на беларускую мову. Пункціры — форма, у якой рэалізуецца глыбокі філасофскі змест. У ім паяднаныя і беларуская, і ўсходняя філасофія. Алесь Разанаў звяртаецца да вучэння дзэн (япон., ад санскр. дх'яна — медытацыя, засяроджанне, сузіранне) і шляхам сузірання, канцэнтрацыі ўспрымае рэчаіснасць. З традыцыяй усходняй паэзіі творчасць паэта аб'ядноўвае лаканізм выказвання, тэндэнцыя да адлюстравання ўзаемапранікнення мікра- і макракосму: «*Ва ўсе бакі вокі — // аблокі // у лета наймаюцца // ў пастухі*». «*Прыгожая — // у абдымкі // вецер бярэ бярозу: // «Ляцім са мной!..»*

Матыў адзінства прыроды і чалавека, іх узаемазалежнасці з'яўляецца адной з галоўных асаблівасцей мастацкага свету Алеся Разанава. Ён валодае здольнасцю асацыятыўна звязваць прадметы і з'явы сусвету, умее бачыць агульныя прыкметы акаляючага асяроддзя, інтуітыўна перастварыць карціну свету ў сваёй свядомасці, уяўляць цэлае ў яго частках, аднаўляць ва ўяўленні з'явы, прадметы на падставе іх рэальнага ці ўяўнага падабенства: «*Па самае горла: // ўвайшлі ў раку // гарлачыкі і чалавекі*». «*З сумкай у левай // з пакетам у правай — // вядзе // з рынку спадарыня раўнавагу*».

Аб'ектам свайго выяўлення паэт робіць прадметы матэрыяльнага свету, гарадскога пейзажу, прымушаючы чытача адрыць для сябе неспазнанасць рэчаў, якія здаваліся абсалютна вядомымі. Спецыфіка яго творчага метаду — у здольнасці бачыць штодзённыя з'явы ў незвычайным ракурсе. Вобразы свету Алесь Разанаў як бы «прасейвае» праз індывідуальнае ўспрыманне. Замест аб'ектыўнай рэальнасці на першы план выходзіць імгненнае ўражанне. Эліптычнасць — паглыбленая ёмкасць паэтычнага твора — становіцца адной з галоўных прыкмет ідыястылю паэта: «*Складае карціну? // Скідае // у возера клён лісты*». «*Адолелі: // Дзьмухаўцы // ўздымаюць з-пад долу // сонцы*».

Семантыка асобных пункціраў становіцца метасемантыкай, г. зн. зашыфраванай і ў асобным гуку: пункцір пераўтвараецца ў суцэльнае «гукапісьмо». У нашай свядомасці нараджаюцца новыя сэнсы, якія ідуць «увышыню»: «*Рэха — басяк: // Сабака // латае брэхам плот*». «*П'янее: // Вада // падае вадаспадам*». «*Лес весялее: // вясна //вястуе аб наваселлі*». «*Да студні тудою!... // Іду па ваду — // вёдры павадырамі*».

Сугучныя словы як бы перацякаюць адно ў адно, ствараецца плаўны пераход ад падабенства гукавога да падабенства сэнсавага. Гэта дазваляе ўзмацніць выражанасць, значнасць слоў у пункцірнай тканіне: «*Ручай, выручай!.. — // Дадому // знаходзь дарогу*». *Валізкі вялізныя: // вызваляе // бліскаўка з хмараў // гром*».

Форма свабоднага верша дапускае магчымасць арганічнага ўвядзення ў тэкст розных тропаў, паколькі адсутнасць рыфмы і рэгулюючай метрыкі забяспечваюць гібкасць паэтычнай мовы. Свабодная рытміка ўзмацняе эфект непрадказальнасці тропа, за кошт чаго павышае ступень яго ўздзеяння на чытача. Сапраўды, пункціры шчодрыя на паэтычныя тропы і фігуры: *цвітуць спевамі дрэвы; спяць з усмешкай цюльпаны; цемра частуецца лустамі светлыні; смага-магніт; вечар журлівіца; рубінамі журавіны; чарацінa гуляе ў гук; глыбокія вокны; цёмныя страхі; шэпча ў гаршку адвар; трыганаметрыя нетраў; будуе гром нанава горад*; і інш. Вельмі часта пункцірны сінтаксіс «раскрывае» прычынна-выніковыя адносіны ў прыродзе, свеце, паводзінах чалавека: «*Нататнік змакрэў: // Набраўся // ўражанняў ад дажджу*». «*Каму пацалунак, // каму ласунак, // а разам // паразуменне: // ружа і чмель*». «*Восень: // глыбее // позірк у азяра*». «*Адліў і прыліў: // у камень // хаваецца глыбіня, // у глыбіню камень*».

Каб адчуць «смак» разанаўскага пісьма, трэба наблізіцца вельмі цесна да кожнага твора, слова, гука. Безумоўна, кожны чытач адчуе сваё, і ў гэтым ён будзе мець рацыю: ансамбль «пахаў» як ад букета кветак. Нехта зможа ўлавіць акцэнты і ноты прэваліруючага водару, іншы атрымае асалоду, «не ўнікаючы» ў самыя нетры. Знойдуцца і тыя, хто ўвогуле нічога не адчуе. Гук — водар, які робіць паэтычны твор бязмежным у сваіх сэнсах.

Пісаць пра творчасць паэта, у часы якога давялося жыць, хутчэй вялікая асалода: пачуць голас аўтара — бонус, які выпадае далёка не кожнаму. Толькі самаму шчасліваму.

**Таццяна АЛЯШКЕВІЧ**

# Мілаградскія хронікі

Уладзіміра Ліпскага я ведаў дагэтуль як аўтара, чые шматлікія краязнаўчыя творы былі адрасаваныя ў асноўным дарослай аўдыторыі…
Ну і яшчэ па публікацыях у «Вясёлцы», галоўныя чытачы якой — дзеці малодшага школьнага ўзросту.

Аповесць У. Ліпскага «Мілаградскі конік», што пабачыла свет на старонках шостага нумара «Маладосці» за 2013 год, разлічана, у першую чаргу, на моладзь і падлеткаў — асноўных падпісчыкаў і чытачоў часопіса…

Сюжэт аповесці нескладаны. Мінскі хлопец Барыс — напэўна ж, хлопчыка, які перайшоў ужо ў сёмы клас, можна назваць больш дарослым словам «хлопец» — дык вось, гэты самы Барыс супраць сваёй волі павінен з'ехаць на лета ў глухую (як ён сабе ўяўляе) вёсачку Мілаград да сваіх дзядулі і бабулі. А бацькі, якія адпраўляюць яго туды, самі збіраюцца ў Палангу, да мора і дзюн. Да глыбіні душы абураны такой несправядлівасцю (тым больш што яго лепшы сябар Дзяніс у гэты ж час выпраўляецца аж но ў Балгарыю), Барыс адкрыта выказвае сваё незадавальненне спачатку бацьку, а затым і дзядулю з бабуляй. Але потым на дзіва хутка кардынальна змяняе свае погляды на жыццё ў вёсцы і нават не хоча адсюль з'язджаць, хоць і чакае яго наперадзе падарожжа ў Егіпет…

Гэтая надзвычай хуткая метамарфоза, якая адбылася з Барысам усяго за некалькі, лічы, гадзін, на першы погляд здаецца не зусім і праўдападобнай, але…

Па-першае, у невялікай аповесці падзеі павінны рухацца куды больш імклівым тэмпамі, чым, скажам, у велічэзным рамане. Па-другое ж, аўтар і не ставіў сваёй галоўнай мэтай прасачыць перавыхаванне аднаго, скажам так, не вельмі выхаванага хлопчыка, занадта спешчанага спакусамі сталічнага жыцця. Калі б асноўнай задачай аповесці «Мілаградскі конік» было менавіта гэта, то так званае «перавыхаванне» Барыса адбылося б дзесьці на адной з апошніх старонак. Але ж тады і далейшых падзей, якія ў ёй паступова развіваюцца, проста не існавала б…

Галоўная мэта Уладзіміра Ліпскага і ў гэтай «падлеткавай» аповесці засталася ранейшай: навучыць шанаваць сваё мінулае, гісторыю сваёй краіны.

Вёска Мілаград, куды па волі бацькоў (і, вядома ж, па волі аўтара) патрапіў галоўны герой, сапраўды ёсць у Рэчыцкім раёне. І менавіта яна дала назву загадкавай мілаградскай культуры, якая існавала на беларускіх і ўкраінскіх землях з VII па І ст. да н. э. Мяркуючы па раскопках, гэта была даволі развітая культура, пра што сведчыць вялікая колькасць выяўленых жалезных прылад працы і зброі. А яшчэ мілаградцы будавалі так званыя балотныя гарадзішчы, займаліся земляробствам і трымалі кароў, коней, свіней...

Па выніках археалагічных раскопак вучоныя высветлілі, што ў мілаградцаў існаваў даволі развіты культ сонца, а таксама культ земляробства… І пра ўсё гэта, дарэчы, таксама згадваецца ў аповесці.

Кім былі гэтыя загадкавыя мілаградцы, балтамі ці ўсё ж праславянамі, пакуль канчаткова не высветлена. Галоўныя героі аповесці Барыс і Даша (Данаша), а таксама дзед Яўхім і баба Клава лічаць мілаградцаў сваімі непасрэднымі продкамі.

Апавядаючы пра гісторыю нашай краіны, Уладзімір Ліпскі ў сваёй аповесці не абмінае і зусім нядаўняе мінулае, горкае і балючае: ваеннае ліхалецце. Усяго некалькі радкоў — а з іх мы даведваемся, як дзед Яўхім, будучы яшчэ трохгадовым хлапчуком, выратаваў сваю маці ад расстрэлу. І, хутчэй за ўсё, гэтая падзея магла адносіцца да ліпеня 1943 года, калі немцы і сапраўды ўшчэнт спалілі вёску Мілаград.

У аповесці «Мілаградскі конік» шмат трапных народных выразаў і прымавак, характэрных толькі для гэтага куточка. А з якім густам і веданнем справы паказана разнастайная прырода Палесся, яго жыццярадасныя, добразычлівыя, а ў чымсьці і крыху дзіўнаватыя жыхары. Адно дрэва з шыльдамі, што паказваюць адлегласць да Парыжа, Масквы, Мінска і нават да… Сонца, чаго вартае! І нават калі дрэва такога на самай справе ніколі не было, а з'явілася яно ў аповесці толькі дзякуючы фантазіі Уладзіміра Ліпскага, шчыра верыцца, што калі яно і магло дзе існаваць, то толькі тут, у гэтых маляўнічых і самабытных мясцінах…

А яшчэ ў аповесці «Мілаградскі конік» асцярожна і надзвычай тактоўна паказана зараджэнне першага юнацкага кахання. Першае каханне Барыса і Данашы наўрад ці будзе мець працяг, але якое гэта мае значэнне! Тым больш што ў галоўных герояў аповесці яшчэ ўсё наперадзе, і ім самім вырашаць, па якім з мноства шляхоў ісці далей.

Калі ж перагарнуў апошнюю старонку «Мілаградскага коніка», крыху здзівіўся. А прычынай таму — кот. Надзвычай каларытны, які, да ўсяго іншага, належыць Данашы, адной з галоўных гераінь аповесці. Міжволі чакаеш, што кот гэты неяк сябе праявіць, — нездарма ж у самым пачатку аўтар удзяліў яму столькі ўвагі, але, на жаль, нічога падобнага так і не адбываецца. Шкада, бо ён мог надаць гэтаму і без таго цікаваму аповеду яшчэ больш каларыт…

А ў рэшце рэшт, аўтару, як кажуць, больш бачна… І спадзяюся, што шаноўны Уладзімір Сцяпанавіч не пакрыўдзіцца на мяне за гэтую паўжартоўную (а з іншага боку, не такую ўжо і жартоўную) заўвагу…

Ну, а самому «Мілаградскаму коніку» пажадаю добрага шляху, і няхай чытачы «Маладосці» як мага часцей сядлаюць яго (па прыкладзе Барыса і Данашы ў сёмым чарапку). Бо гэта ж так цікава: скакаць на гарачым кані па няпростым і шмат у чым яшчэ не пракладзеным шляху беларускага літаратурнага краязнаўства!

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

Фёдар ЯСТРАБ



## Санеты

***

*Сярод людзей чым крок мой адзавецца, —*
*Мо чымсьці да нікчэмнасці малым?*
*Ад зробленага мною толькі дым*
*Ці ліст у нерасклееным канверце?*

*Аддам няўжо ў ахвяру жорсткай смерці*
*Маіх шчадрот разгорнуты кілім?*
*Што скажа ў іншасвеце херувім,*
*Калі туды дагрукаецца сэрца?*

*Не верыцца, што ўсё — і пыл, і прах.*
*Але чамусьці перад смерцю страх*
*У ланцугі закоўвае памкненні.*

*У Вечнасці не чутны бой гадзін —*
*Мільён гадоў нібыта міг адзін,*
*А мы з табою — нават не імгненні.*

***

*Тваёй тут не было яшчэ нагі*
*Каля забытае святой крыніцы.*
*Перахрысціся, нібы прад капліцай,*
*Адрынь зямное, будзь на міг — другі,*

*Накінь вярыгі вернага слугі*
*І ачышчальнае глыні вадзіцы,*
*І цноту адпусці з глухой цямніцы,*
*Вярніся зноўку на свае кругі.*

*Зірні на ўсё прасветленым паглядам:*
*Не многа месца лаянкам і звадам?*
*Няўжо суладдзю ты не маеш кут?*

*А мо з душы павымятаеш смецце —*
*Пракіслы дух і горыч ліхалецця,*
*А з імі соль і чарнату пакут?*

***

*Ці не зашмат цяпер табе відно?*
*Вясёлы ты, як ветрыку павеў.*
*Нягледзячы на тое, што ссівеў,*
*На розуме ў цябе, бадай, адно.*

*Няўжо не каштаваў жыцця віно*
*І з першых пацалункаў не хмялеў?*
*Чаму ж так бессаромна асмялеў,*
*Ці ты не ведаў гэтага даўно?*

*Б'еш Бахусу штодня сляпы паклон,*
*Збялелі скроні, ты цяпер не зух,*
*І сэрца зашчымела неўзаметку.*

*Відаць, адчуў, што келіх буйных дзён*
*Спусцеў, віно на донцы. Толькі дух*
*Заменіць жарсцяў залатую клетку.*

***

*Жывых уражанняў аскепкі штохвіліны*
*Складаюць дзіўнымі суквецці мі пано,*
*І тчэцца сувязей няведамых радно,*
*І наразаюць колы часу каляіны.*

*І ўсё жыццё тваё, і толькі міг адзіны,*
*Як частка нейкага эпічнага кіно,*
*Канец якога ведамы даўно,*
*Ды ўсё ж інтрыга аплятае павуцінай.*

*Дзяцінства тоіць захапленне адкрыцця,*
*Вясёлкавым агнём фарбуе ход жыцця,*
*І не пужаюць нечаканых драм хімеры.*

*Калі ж на голаў твой кладзецца белы снег*
*І позірк уваскрэсіць*
*першародны грэх —*
*Адчуеш спінай Вечнасці намеры!*



Фёдар Ястраб «Месячны краявід». Аргаліт, алей. 2011 г.

Ала КЛЕМЯНОК



***

*Знянацку, раптоўна*
*рэчаіснасць парушыла раўнавагу.*
*Адназначна, безумоўна*
*я кінула свой лёс на вагу.*
*Бяздушна і прыкра*
*зарыпелі старыя вагі.*
*Ламаць іх не прывыкла:*
*не хапае ў сэрцы адвагі.*

***

*Вячэрні смутак*
*п'ю з тваіх вачэй,*
*не наталіць мне ім сваіх начэй.*
*Ад смагі*
*сэрца высыхае і баліць.*
*Я так хачу з табою побач быць.*
*Расы халодны дотык палявы*
*цвярозіць розум.*
*Розум валявы,*
*але душа трапечацца, як птах,*
*што выпадкова*
*заляцеў пад нечы дах,*
*і хоча вырвацца на волю,*
*б'ецца ў шкло,*
*у шкло вачэй,*
*дзе холад росаў, зло.*

***

*Не сказаў, толькі даў зразумець,*
*што я птах не ягонага неба,*
*што яму мае спевы не трэба,*
*ён імкнуўся высока ляцець.*
*У вышынях бязмежна крутых*
*не дазволены гукі зямныя,*
*там сусвету глыбіні глухія,*
*там душы прадапошні уздых.*
*Я скацілася з кветкі расой*
*на яго заінелыя крылы,*
*не адолеў саколе мой мілы*
*наталіцца адзінай слязой.*

## Удзячнасць

*Госпадзі, прымі маю падзяку*
*за парады ўсе твае і знакі,*
*што так шчодра пакідаеш мне*
*у жыцці наяве і ўва сне.*
*За выпрабаванні і разлукі,*
*што мне сталі добраю навукай.*
*Дзякую за радасць жыць і верыць,*
*крокамі шляхі-дарогі мераць,*
*бачыць краявідаў маляўнічасць,*
*чуць птушыных спеваў таямнічасць.*
*Ты мне сэрца запаліў любоўю,*
*розум даў і дужасцю напоўніў.*
*За сяброў і ворагаў удзячна,*
*за пірог і за акраец смачны,*
*за дзяцей, што з Божай дапамогай*
*па зямлі ідуць сваёй дарогай.*
*Дзякую за ўсё, што сёння маю,*
*Тваім імем лёс пераждаю.*

***

*Я люблю зіму.*
*Мяне яна любіць.*
*Сцеле чыстыя сцяжынкі пад ногі.*
*Дрэў празрыстыя шатры ля дарогі*
*надвячоркам у блакіце галубіць.*
*У пяшчотна-сініх фарбах*
*наўколле,*
*вечар цені мяккія сцеле,*
*і барвовае заходу вугolle*
*астывае на нябеснай пасцелі.*
*Свой аўтограф*
*пакідае на шыбах*
*фіялетавы сусвет ранкам зімнім.*
*Разгадаць мне іерогліф той сіні,*
*як скрануць*
*ільдоў вечных глыбы.*
*Што за прыгажосць*
*гэты ранак!*
*Сад, нібы карункавы вэлюм,*
*зіхаціць увесь блакітам на белым,*
*як чароўны казачны замак.*

Валеры МАКСІМОВІЧ



## Красой зямною паланёны…

Паэтычны цыкл

**1**

*Спытай, што ёсць прыроды хараство,*
*Што ёсць красы нязводная праява? —*
*Як для мяне — найлепшы ў свеце схоў,*
*Чароўная і казачная гавань.*

*У ёй я, доўгай стомлены хадой,*
*Жыцця хвіліны баўлю адмыслова*
*І позірк прагна наталяю свой,*
*Пякнотай паланёны пажыццёва.*

*Душа вядзе няспынны пошук-рэй*
*І сярод красак сцішана вандруе, —*
*Гарыць між кветаў-ружаў палымней*
*І лашчыць кожны песцік, і цалуе.*

*Краса — прытулак дзіўны для душы:*
*Яна — збавенне, а падчас і кара,*
*Ды нельга без яе дзівос пражыць,*
*Як без любові нельга і без мары.*

*І я, стары рамантык і дзівак,*
*Сярод панаднай квецені вякую —*
*У храме незямнога хараства, —*
*Пакуль я тут, мяне любоў ратуе.*

**2**

*Калі я страчу зрок свой незнарок,*
*Любіць жыццё — усё ж! — не развучуся:*
*Зраблю адзін, другі і трэці крок —*
*Хадзіць у цемры скрушнай навучуся.*

*Маімі спадарожнымі тады,*
*Няйначай, стануць бэз, трава,*
*сцяжынка,*
*Што выбавяць ад ліха і бяды,*
*Каб толькі з імі быў, каб толькі жыў бы.*

*Мае вы родныя, за столькі год*
*Я з вамі парадніўся жылкай кожнай,*
*Што нас, як каранёвы, дужы род,*
*Нічым дарэшты вынішчыць няможна.*

*Пакуль вы ўсе са мной, здаецца мне,*
*Жыццё свой рэй вядзе,*
*вядзе бясконца.*
*Хай дзесяць, дваццаць, сотня год міне —*
*Красы жыцця не вычарпаць да донца.*

*Ніколі не стамлюся сузіраць*
*І лашчыць зрокам перлы-залацінкі,*
*Што россыпна, располымна гараць*
*На бэзе, на траве і на сцяжынцы.*

**3**

*Нямала я прайшоў шляхоў-дарог,*
*З пустою кайстрай часам, часам —*
*з поўнай.*
*Штосьці страціў беззваротна, штосьці*
*збярог —*
*І тое ў сэрцы бліскае няўтомна.*

*Здарожаны хадой, праводжу я*
*З ім дні свае святлістыя і ночы, —*
*Яно, як выратоўная бруя,*
*Дае мне сіл і нутранное моцы.*

*Няма шкадобы горкае зусім,*
*Няма таго няўсцешлівага жалю, —*
*Пакуль мы тут,*
*мы любім, і грашым,*
*І грэх пасля ахвярна выкупляем.*

*Ды што той грэх? Гульня? Забава? Шал?*
*Захопленасць альбо зачараванасць?*
*Я грэшны, што красу паўсюль гукаў,*
*Быў хараству адзінаму аддaны.*

*Грэх толькі ў тым. Ды каб яго мне*
*скрыць,*
*Не хопіць патайных і бачных дзверцаў.*
*Ён, нібы скарб замолены, блішчыць, —*
*Як абярог жывы, — на ўскрайку сэрца.*

**4**

*Ты не кажы: «Ідыліі няма!»*
*Лепш паглядзі вакол сябе, мой друга:*
*Шчаслівага здзяйснення талісман —*
*Агніста-палымнеючая ружа.*

*Гарэць пялёсткі яркія, гарэць,*
*Вітаюць новы дзень пунсовым сэрцам.*
*Мне тут так люба моўчкі пастаяць*
*І цудам гэтым полымным сагрэцца.*

*Баюся я парушыць цішыню,*
*Падацца чужаніцаю баюся, —*
*Нагбом красу спакусліваю п'ю,*
*Дзіўлюся — і ніяк не надзіўлюся.*

*У сэрцы прагна ўзрошчваю мілосць,*
*Ды ўсё ж балюча,*
*дружа мой, бывае,*
*Што дзіўная такая прыгажосць,*
*Да крыўднага,*
*так хутка адцвітае.*

*Дзівуйся й ты, як хочаш дзіваваць,*
*З майго жадання —*
*рассмяшу да смерці! —*
*Мне б хоць на міг адзіны ружай стаць,*
*Каб счараваць суздром чыёсьці сэрца.*



Расціслаў БЕНЗЯРУК

# Дарога ў Кушляны

## *Апавяданне*

1

І да таго нетаропкі паштовы паяздок пачаў скідаць хуткасць. Вагоны загрукалі-заскрыпелі, спыняючыся. Паказаўся станцыйны будыначак «Солы».

Людзей сышло нямнога. Падбярэзскі запыніў пагляд на адным прыезджым з шыкоўнымі вусамі і барадою, у белай кашулі і залаціста-светлым саламяным капелюшы. Вельмі ўжо ён меў інтэлігентны выгляд.

Не адзін Ніка выдзеліў яго: да прыезджага напрамкі спяшаўся сам начальнік станцыі Восіпаў, працягваючы руку для вітання:

— Ну, як даехалі, пане Багушэвіч?

— Трохі жарка было, але паяздок давёз.

— Пагода гарачая, — пагадзіўся начальнік. — Да сваіх?

— На магілу бацькоў у Жупраны збіраюся з’ездзіць, — адказаў Багушэвіч, — і з братам пабачуся…

Цягнік высадзіў пасажыраў і пабег далей. Людзі разышліся, і яны засталіся ўдвух. Ніказы Падбярэзскаму выпала чуць ад віленскіх студэнтаў пра справядлівага следчага, які гарой стаіць за мужыка, а таксама нібыта ён выдаў кніжку пад дзіўным прозвішчам Мацея Бурачка. Так гаварылі пра Багушэвіча, і Падбярэзскаму раптам закарцела пазнаёміцца з чалавекам, ды нейкае ўнутранае хваляванне стрымлівала яго, таму ўзрадаваўся, пачуўшы пытанне:

— Куды пан дабіраецца?

— У Кушляны, — да канца не асіліўшы хваляванне, сіпла адказаў Падбярэзскі.

— Да каго ў госці, калі не сакрэт? — працягнуў руку Багушэвіч.

— Чуў я, што ў Кушлянах жыве цікавая мастачка Зося Ясевіч, дык прыехаў пазнаёміцца, — і адразу назваў сябе: — Ніказы Падбярэзскі, мастак.

— Мастак мастака бачыць здалёку, як рыбакі, — усміхнуўся ў пышныя вусы Багушэвіч. — Ды, здаецца, вас не сустракаюць?

— Пра мой прыезд ніхто не ведае, — прызнаўся Падбярэзскі.

Высокі чарнявы малады чалавек спадабаўся Багушэвічу, і ён прапанаваў:

— Брычка прыехала, то мо паедзем разам. А там можна будзе ў бацькавай хаце спыніцца, пакуль жыллё адшукаеце. А можа, і не трэба будзе шукаць...

Толькі цяпер Ніка заўважыў у ценьку пад старой ліпаю лёгкую брычку з вазніцам на козлах. Паселі, фурман нукнуў на каня, і яны паехалі.

Ніказы цікавіла, што пан Францішак скажа пра Зосю Ясевіч. Сам жа Падбярэзскі чуў, што маладая мастачка прыязджала ў Вільню, бачыла яго эцюды і вельмі хваліла іх. Сустрэцца ім тады не выпала, бо Ніказы якраз не было ў Вільні. Таму сам паехаў у Кушляны.

Аказалася, што пан Францішак не толькі аднавясковец, але й сусед, што ён часта бывае ў доме Ясевічаў і нават у вершы «У судзе» акцызніка назваў Яськовым, маючы на ўвазе Зосьчынага бацьку.

— Там не толькі панна Зося цікавая, але і яе бацька?..

Багушэвіч раптам бы асекся. Ён не ведаў, як Ніказы паставіцца да таго, што стары Ясевіч браў удзел у паўстанні шэсцьдзясят трэцяга года: цяпер маладыя людзі паразнаму яго ацэньваюць!

У нехітрай і нязмушанай гаворцы дарога не здалася доўгай, і вось яны ўжо ў двары, а насустрач спяшаюць Апалінар з жонкай Мальвінаю. Браты абняліся.

— Гэта мой прыяцель, мастак Ніказы Падбярэзскі з Вільні, — прадставіў Багушэвіч маладога чалавека. — Ці знойдзецца нам месца для начлегу?

Братавы словы дадалі Апалінару перакананасці ў тым, што Францішак, жывучы ў Вільні, даўно сябруе з Ніказы. На самой жа справе яны толькі на станцыі пазнаёміліся і, здаецца, адчулі роднасць душаў.

— Што ты кажаш, Франц?! — ледзь было не пакрыўдзіўся Апалінар. — Табе і тваім сябрам заўжды месца знойдзецца ў бацькавым доме. Дарэчы, у пакоі, дзе твае дружбакі начавалі, ложкі засцеленыя чакаюць…

— Не крыўдуй, браце! — весела пляскаў Францішак па плячы Апалінара. — Я ведаю, якое ў цябе добрае сэрца! А гэта быў толькі жарт.

Хаця Ніказы адмаўляўся, але і яго пасадзілі за стол. Ежа была простая, сялянская, ды згатаваная з густам, і госці хутка наеліся.

— Калі папалудналі, — сказала Мальвіна, — то можна і адпачываць!

Ніказы з ходу кульнуўся ў ложак і ледзь не патануў у пульхнай пярыне, што паслала Мальвіна. Хацелася дачакацца Францішка і болей даведацца пра Зосю Ясевіч і яе бацьку: яму ўвесь час здавалася, што Багушэвіч нешта недагаворвае пра суседа.

Сон, аднак, хутка адолеў яго.

2

Улетку сонца рана ўстае, а ў гэты дзень яго ўсё-ткі апярэдзіў пан Францішак. Неба чырванела на ўсходзе, зямля чакала першых сонечных промняў, як ён падняўся з пасцелі.

На траве, дрэвах і кустах віселі буйныя кроплі расы. Ранішняя прахалода бадзёрыла цела. Хаця Францішак ішоў, здавалася, без мэты, але адразу аказаўся ля Ясевічавага двара. Варта было папярэдзіць суседа пра прыезд мастака, ды не ў такую рань: Антон, напэўна, яшчэ спіць! І крыху здзівіўся, заўважыўшы таго ў двары. Зайшоў.

— З чым добрым, суседзе? — запытаў Антон і абапёрся на граблі, якімі толькі што працаваў.

— Дзе твая Зося?

— Спіць яшчэ. Маладыя любяць паспаць! Гэта ў нас, старых, косці гудуць, спаць не даюць, а ў іх клопату мала… А чаго ты яе шукаеш?

— Ды не я — да яе прыехаў мастак з Вільні.

— Ці не Падбярэзскі? — хітра прыжмурыў вока Ясевіч.

— Ён самы! А ты адкуль ведаеш?

— Зоська мая, як вярнулася з Вільні, усё гаворыць пра дзівосныя карціны нейкага Падбярэзскага. А тут, бачыш, і сам заявіўся! — у Антонавым голасе Францішак улавіў незадаволеную нотку, паспрабаваў супакоіць:

— Што мы з табой, Антоне, разбіраемся ў карцінах?! А ім, маладым, трэба сустракацца, трэба гаварыць. Ім гэта цікава!

— А я хіба пярэчу? — памякчэў Ясевіч і запытаў паўшэптам: — А які ён з сябе, той Падбярэзскі?

Францішак улавіў у ягоных словах зацікаўленасць і адказаў сур’ёзна:

— Маладзейшы за нас з табою. Разумны чалавек!

3

Дарма Антон нагаворваў і на дачку: яна разам з маці ўжо завіхалася ля распаленай печы.

— Гатуйце, гатуйце, — заявіў ён, — у нас сёння госці будуць.

— Якія госці?! — узняла Кастуся на мужа вочы. — Сам запрасіў, а нам не сказаў. Каб абняславіліся…

— Я і сам толькі пра гэта даведаўся.

— А хто такія?

— Твой Падбярозавік, Зося, — ухмыльнуўся бацька.

— Хто-хто? — не зразумела жонка.

— Мастак з Вільні Падбярэзскі жадае пазнаёміцца з нашай Зосяй.

— То, можа, жаніх?

— Варыце, каб не абняславіліся, — буркнуў Антон і пайшоў у суседні пакой.

Нядоўга затрымалася на кухні і Зося. Калі выйшла, убачыла дзіўную карціну: куфэрак быў адчынены, а бацька прымяраў цёмна-гранатавы мундзір, у якім трапіў у палон у шэсцьдзясят трэцім годзе. На вечку куфэрка ляжалі паўстанцкая шапка і лясачка, з якой ва ўрачыстыя моманты пан Ясевіч выходзіў на вуліцу.

Апошнім часам такіх хвілін, мусіць, было мала, бо даўно куфэрак не адчыняўся. «Няўжо для яго ўсё так важна?» — падумала дзяўчына, а ўголас спытала:

— А нашто так апранаешся, татка?

— Няхай і віленскія бачаць, што ў нас не мядзведжы кут, што і тут людзі жывуць! — горда адказаў Ясевіч.

Зося пырснула смехам і пабегла ў свой пакойчык пераапранацца.

4

Госці зайшлі тады, калі ў Ясевічавай хаце згатавалі стравы. Антон сустрэў па ўсёй форме: у мундзіры. Ён нечакана пераклаў лясачку з правай рукі ў левую, а правую прыклаў да шапкі і па-маладзецку адрапартаваў:

— Інсургент палка Яна Козела Антон Ясевіч!

На Багушэвічавым твары адбілася несхаваная прыкрасць: навошта гэты спектакль?! А ў Падбярэзскага, наадварот, жарт выклікаў зацікаўленасць:

— Раскажыце, як усё было!

Ад гэтай цікавасці ў Антонавай душы нарадзілася прыязнасць да маладога чалавека. Ён гатовы быў пачаць расказваць, але тут умяшалася Кастуся:

— Ты, Антоша, можаш пра гэта цэлы дзень гаварыць, а ежа стыне.

Давялося прысесці. Паклікалі за стол і Зосю. Знаёмячыся, Падбярэзскі быў у захапленні ад яе вабнага тварыку. «А калі яшчэ гэтак жа хораша малюе?» — прамільгнула думка.

Пакаштавалі наліўкі, Францішак пахваліў гаспадынін выраб і развітаўся. Астатнія таксама не надта налягалі на ежу, і Антон пачаў расказваць пра сваю маладосць. Кастуся хвілінку паслухала і пайшла на кухню, а Зося засталася.

— Мне тады было дзевятнаццаць. Ніколькі не раздумваючы, стаў інсургентам. Залічылі ў атрад Яна Козела. У баі ў Вілейскім павеце мяне схапілі ў гэтым паўстанцкім мундзіры. Без памяці быў. Тады паланілі многа. Гналі, памятаю, хто апрануты, а хто і голы. Людзі спачувалі нам, кідалі і ежу, і адзежу. А да мяне падскочыла маладзенькая паненачка і хустку на плечы накінула. Канваір адагнаў яе, дык дзяўчына так глянула на яго, што, здавалася, спапяліць уміг…

— І вы, татка, не ведаеце, хто была тая паненачка? — уставіла слова Зося.

— Чаму не ведаю? І я ведаю, і ты яе ведаеш! Гэта наша мама.

— Няўжо яна такая геройская? — не паверыла Зося.

— А то ж… Віну маю даказваць не трэба было. Мяне чакала самая суровая кара: расстрэл ці павешанне, дык мая паненачка аж да губернатара дайшла, каб мяне ўратаваць. І ўратавала: замест расстрэлу мяне паслалі салдатам у штрафны батальён у Туркестан, дзе баі ішлі. Ды Бог зберог…

— А як пасля сустрэліся са сваёй выратавальніцай? — дапытвалася Зося.

Кастуся пазвінела на кухні посудам і, вярнуўшыся, прысела на краёк услона. Яна даўно падавала мужу рукамі знакі, каб хутчэй скончыў гаворку, але той, захоплены аповедам, не заўважаў нічога. Кастуся зноў узяла ініцыятыву, як кажуць, у свае рукі:

— Я дачакалася яго вяртання, бо вельмі ўжо мне ён здаваўся і мілым, і няшчасным. Мы пажаніліся, каб ты, Зося, нарадзілася, — хутка закончыла яна аповед і дадала: — Я ўжо бульбу падагравала, то давайце есці, каб не схалонула зноў…

— Рамантычная гісторыя! — задумёна заўважыў Падбярэзскі, беручыся за відэлец.

— А табе не здаецца, Антоша, што мы доўга кормім моладзь байкамі? Ім, мабыць, ёсць і самім аб чым пагаварыць. То няхай пагуляюць без нас!

Муж ізноў згодна кіўнуў.

5

— Мне давялося чуць пра вашы карціны, панна Зося, — папрасіў Падбярэзскі. — То, можа, пакажаце?

Зося расчыніла дзверы ў суседні пакойчык, і мастак убачыў на сценах мноства карцін. Вялікіх і маленькіх, алоўкам і акварэллю.

— Ого-го! — не схаваў ён свайго захаплення.

Ніказы раптам, нібы сляпы, выставіўшы руку ўперад, няспешна, як бы намацваючы нагой падлогу, рушыў напрасткі да супрацьлеглай сцяны, на якой вісела вялікае палатно. На карціне быў узлесак і як бы асобна адна сасна, пад якой стаяла дзяўчына.

Мастак не дайшоў пару крокаў: нечакана ў задуменні спыніўся, рука хвілю яшчэ вісела ў паветры і апусцілася. Ніказы павярнуўся тварам да Зосі.

— Хораша! — прызнаўся ён. — Так і хацелася дакрануцца да кары, ці такая ж шурпатая, як падаецца…

Ад гэтай пахвальбы дзяўчына аж заірдзелася.

— І паненку Зосю бачу на ёй, — дадаў Ніказы, а тая захітала галавою:

— Не, гэта не я — то проста дзяўчына…

— … але вельмі падобная да вас, — закончыў Ніка.

Прайшла пара захаплення, і мастак стаў заўважаць на Зосіных карцінах недахопы. Маладой мастачцы часам не хапала прасторы, і прадметы лезлі адзін на адзін, дый здаваліся роўнымі, хоць знаходзіліся ў аддаленасці.

— Дзе вы вучыліся маляванню? — спытаў Ніказы.

— Нідзе, — апусціла галаву Зося.

— А як вы малюеце?

— Як Бог на душу пакладзе.

— То не будзем часу марнаваць…

Калі выйшлі з дома, Ніка неспадзявана пакінуў сваю даму, забегаў туды-сюды, замітусіўся. Пасля стаў бы ўкапаны і паклікаў Зосю.

— Паглядзіце адсюль на свой дом!

— А што?! Дом як дом, — паціснула плячамі Зося.

— Не, менавіта адсюль добра бачны светлыя вокны, як прыгарнуліся да хаты ліпы ды клёны, сцяжынка ад дома, а паабапал розныя кветкі. Вось так трэба выбіраць месца, дзе паставіць мальберт, каб на палатне з’явілася тое, што хочаш бачыць, — і дадаў: — Я яшчэ больш здзівіў пана Францішка, як ішлі да вас, бо доўга шукаў, пакуль знайшоў гэту мясціну…

Мастак устанавіў мальберт і стаў рабіць эцюды для будучай карціны. Баючыся перашкодзіць, Зося адышла на колькі крокаў, каб маляваць пейзаж. Ніказы час ад часу кідаў на яе пагляд, бо на палатне з’яўляўся не толькі дамок з высокімі кветкамі, але і Зосьчын тварык…

…Наступнай раніцай Багушэвіч паехаў у Вільню, а Падбярэзскі яшчэ колькі дзён жыў у Кушлянах, не шкадуючы часу на эцюды. Развітваючыся, паабяцаў наступным разам прывезці карціну.

**Пасляслоўе**

Час — самы справядлівы і непадкупны ацэншчык. Ён адзіны адбірае, каму аддаць несмяротнасць, а каму — забыццё. І не церпіць нічыіх пярэчанняў…

Як абяцаў Ніказы, наступным разам ён прывёз паказаць карціну, дзе акрамя знаёмага дамка па сцяжынцы ішла дзяўчына з кошыкам у левай руцэ.

— А мяне чаго намалявалі? — быццам пакрыўдзілася Зося, а Ніка адказаў, як некалі яна яму:

— Гэта не вы, панна Зося, а проста дзяўчына…

— … але вельмі падобная да мяне, — усміхнулася тая.

Дарога прыводзіла Падбярэзскага і раз, і два, і тры ў Кушляны. У адзін з прыездаў даведаўся пра смерць пана Францішка і вельмі паспачуваў яго блізкім.

Ён, як мог, дапамагаў маладой мастачцы. Кахання паміж імі не было, бо Ніказы быў жанаты. Зося пайшла замуж за Шафнагеля — чалавека дзелавога і працавітага.

Панна Зося, мабыць, не лічыла сябе сапраўднай мастачкай, і, калі Ясевічы перавозілі дом на новае месца, яе карціны былі знішчаны. Нямногія людзі вам змогуць расказаць і пра мастака Ніказы Падбярэзскага, а вось імя Францішка Багушэвіча — адваката-абаронцы простага люду і паэта — народ зберагае ў памяці.

# Кнігазборы Вялікага Княства

XVI стагоддзе — рэвалюцыйны час у нашай гісторыі: карэнна змяняецца культурнае, сацыяльнае, рэлігійнае жыццё. Упэўнена заяўляе пра сябе кнігадрукаванне. Дзеці шляхты выязджаюць на вучобу за мяжу, прывозяць адтуль… не, не жонак — кнігі! З Заходняй Еўропы прыходзіць мода на веды і чытанне. Яшчэ нядаўна кніга была рэдкасцю — і вось ужо для кожнага адукаванага шляхціца справай гонару стала мець дома куфар з кнігамі.

## МАЛІТОЎНІК З ПАРТРЭТАМ КАНЦЛЕРА

Паколькі кніга ў XVI стагоддзі — рэч дарагая, то велічыня хатняга кнігазбору дэманстравала не толькі адукаванасць, але і капітал яго ўласніка. Самая ранняя з вядомых нам хатніх бібліятэк — кнігазбор у Геранёнах, які належаў роду Гаштольдаў, самаму багатаму ў ВКЛ першай паловы XVI стагоддзя. Вядома, што ў 1510 г. кніжніца магнатаў налічвала 71 выданне. Амаль дзве трэціны з іх напісана на лаціне. Гэта навуковыя трактаты, траўнікі, байкі Эзопа, гісторыі пра Трою, Аляксандра Македонскага, «Гісторыя іўдзейскай вайны» Іосіфа Флавія. Яшчэ трэціна кніг — кірылічныя рукапісы.

Адзін з асобнікаў сваёй бібліятэкі (малітоўнік, ілюмінаваны геніяльным кракаўскім мастаком Станіславам Самастжэльцам) Альбрэхт Гаштольд падарыў Жыгімонту Старому. Цікава, што ў выглядзе аднаго са старцаў, якія прыйшлі пакланіцца Марыі і Ісусу, адлюстраваны вялікі князь, а ў іншай сцэне «ўдзельнічае» сам замоўнік — канцлер Гаштольд. Сын апошняга, Станіслаў, узяў шлюб з Барбарай Радзівіл, але памёр ужо праз пяць гадоў. Паколькі дзяцей у пары не было, маёмасць, а разам з ёй і бібліятэка, адышлі да вялікага князя Жыгімонта Старога, які перадаў яе сыну, Жыгімонту Аўгусту.

## РАДЗІВІЛЫ: СЫН СУПРАЦЬ БАЦЬКІ

Пасля выгасання Гаштольдаў менавіта род Барбары стаў самым значным і заможным у ВКЛ. Да сваіх кніг князі ставіліся гэтак жа беражліва, як да іншай маёмасці — і да 1651 года каталог нясвіжскай бібліятэкі ўжо ўключаў у сябе 743 назвы. Найбольш было рэлігійных выданняў. Мікалай Радзівіл Чорны, брат Барбары, аддany кальвініст, фундаваў дзве друкарні — у Берасці і Нясвіжы. Сын Чорнага — Мікалай Радзівіл Сіротка — стаў зацятым каталіком, аднак пераняў ад бацькі цікавасць да кніг і працягнуў, ужо ў Вільні, яго друкарскую справу. Сіротка называў кнігі «сваёй любоўю», а бібліятэку — «адзіным аздабленнем». У кнігазборы такіх розных бацькі і сына знайшлося месца і свецкім кнігам: па архітэктуры, гісторыі, матэматыцы, астралогіі і астраноміі, геаграфіі. Менавіта Радзівіл Сіротка стаў ініцыятарам і вылучыў грошы на складанне ў Нясвіжы першай карты ВКЛ, якая была выдадзена ў 1603 годзе.

У тастаменце Сіротка ўстанавіў бібліятэчную ардынацыю: завяшчаў кнігі старэйшаму сыну і яго нашчадкам са строгім наказам «не расцярушыць», «не рассеяць» каштоўны кнігазбор Нясвіжскага замка. Для цэласнасці бібліятэкі нават выкупіў частку ў свайго брата кардынала.



*Жыгімонт Аўгуст.*



*Мікалай Радзівіл Сіротка.*

## НЕ ПЕРАШКАДЖАЙ СЛУГАМ!

Аднак дрэва Радзівілаў было разгалінаванае. Кнігазборы меліся не толькі ў Нясвіжы ды Вільні, але таксама ў Біржай, Кедайняй, Клецку. Пра аднаго з Радзівілаў, Альбрыхта Станіслава, захаваліся сведчанні, што ён нават пры пільнай патрэбе ніколі не клікаў служку, калі знаходзіўся таго паглыбленым у чытанне.

Пра новыя зацікаўленні аматараў кнігі ў ВКЛ сведчыць кнігазбор віленскага кашталяна Януша Радзівіла. Збор захоўваўся ў Слуцку, які дастаўся яму ў пасаг пасля шлюбу з апошняй прадстаўніцай роду Алелькавічаў. Януш памёр ва ўзросце 41 года, у 1620-м, а па сабе пакінуў «скрыню з кнігамі старымі пісанымі», дзве вялікія шуфляды «з бібліятэкай» ды скрыню з «каштоўнасцямі»: крышталёвай фляжкай, двума келіхамі ды трыма кнігамі (адна з іх — кальвінская Біблія). Каля 70 кніг ліцвінскага магната — гэта рэдкія ў ВКЛ творы на іспанскай і французскай мовах па ваеннай справе, гісторыі Францыі, там ёсць біяграфіі французскіх каралёў, а таксама творы па англійскім праве, медыцыне, гісторыі, логіцы, тэалогіі. Такі шырокі кругагляд Януша быў выкліканы выхаваннем: ён рос у Біржаі — асноўным маёнтку яго бацькі, Крыштафа Радзівіла Перуна — і выхоўваўся ў кальвінскай традыцыі, пасля вучыўся ў нямецкіх пратэстанцкіх універсітэтах. Адначасова Януш быў любімым унукам Васіля-Канстанціна Астрожскага, асноўнага апекуна праваслаўя ў Рэчы Паспалітай. Атрымаўшы ад бацькі і дзеда пратэстанцка-праваслаўнае выхаванне, Януш, аднак, прыкіпеў сэрцам да каталіцкай Францыі. Гэта захапленне і адлюстравалася ў яго кнігазборы.

## ШЭРШЭ ЛЯ ФАМ

Другой па велічыні магнацкай кніжніцай у ВКЛ лічыцца бібліятэка Сапегаў у Ружанах. Пачаў яе збіраць Леў Сапега. Відавочна, ён як рэдактар Статута 1588 г. абапіраўся на працы Арыстоцеля, Цыцэрона, Вергілія, якія меліся ў яго кнігазборы. Усяго ружанская бібліятэка ў часы яго канцлерства налічвала каля 3000 кніг. У адрозненне ад Радзівіла Сіроткі, Сапега меў больш практычнае стаўленне да свайго кнігазбору: падзяліў кнігі пароўну між дзецьмі.

Вялікія кнігазборы былі ў магнатаў, звязаных з выдавецкім рухам. Вядома і пра існаванне бібліятэкі Яна Абрамовіча, віленскага ваяводы, спонсара многіх выданняў, у тым ліку Катэхізіса Судровіўша 1598 г. Кнігазбор мелі Хадкевічы — фундатары Заблудаўскай друкарні. У XVI ст. паўсталі бібліятэкі Тышкевічаў: расцярушаныя між Лагойскам, Чырвоным Дваром (Каўнаскі павет), Свіслаччу і Біржай, яны налічвалі агулам некалькі тысяч тамоў.

Актыўнымі чытачамі, прычым не толькі раманаў, былі жанчыны. Іх чытання патрабавала актыўная грамадская дзейнасць. Так, Эльжбэта з Шыдлоўца, жонка Мікалая Радзівіла Чорнага, вяла рэлігійныя дыспуты і мела павагу сярод тэолагаў, як і жонка віленскага войта Ратундуса. Займаліся фундаваннем адукацыі, манастыроў і збораў, мастацтва. А Кацярына Хадкевіч падарыла ў 1575 годзе супрасльскаму манастыру тры кніжкі, Багдана Прэслаўка ахвяравала сваё рукапіснае Евангелле Жыровіцкаму манастыру. Паказальна, што менавіта жонкам магнатаў, а не толькі самім магнатам, былі прысвечаны многія выдатныя творы.

## ХТО ВАЛОДАЕ ІНФАРМАЦЫЯЙ…

Некаторыя магнаты не мелі часу і магчымасці шмат чытаць. Але пры жаданні маглі атрымліваць інфармацыю з кніг праз сваіх «бібліятэкараў» — літаратараў, выдаўцоў ці іншых інтэлектуалаў, якія мелі права карыстацца і працаваць для сваіх мэт у магнатавых кніжніцах. Так, дзейнасць Саламона Рысінскага, аўтара зборніка прыказак і прымавак, была цесна звязана з любчанскімі Радзівіламі. Захаваўся перапіс бібліятэкі, якой карыстаўся Рысінскі пры двары магнатаў. У ёй 822 тамы, 76 % якіх — свецкія выданні. Дарэчы, пятую частку бібліятэкі складала антычная літаратура. Падручнікі, дапаможнікі па граматыцы, лаціне і грэчаскай мове, матэматыцы сведчаць пра настаўніцкую дзейнасць Рысінскага. Шмат кніг відавочна звязаныя з падрыхтоўкай ім зборніка прыказак: «Прыказкі» Э. Ратэрдамскага, грэчаскія прыказкі, зборнікі афарызмаў, загадак, прытчы Саламона. 80 кніг — трактаты на гістарычную тэму.

Удзячныя за матэрыяльную і маральную дапамогу, выдаўцы часта прысвячалі магнатам свае кнігі. Так, Ян Казаковіч, які пераклаў «Іўдзейскую вайну» Іосіфа Флавія дзякуючы спрыянню Крыштафа Зяновіча, пісаў апошняму: «Шматлікімі каштоўнымі кнігамі бібліятэка вашай міласці аздоблена, нямала людзей да яе штодзень прыязджае». Відавочна, берасцейскаму ваяводзе была прыемная такая ўвага да яго кніжніцы. Ён называў яе «самай вялікай каштоўнасцю» і, перадаючы сыну, прасіў таго «не раскідваць яе, але, дасць бог, павялічыць і заўжды трымаць у адным месце Смаргоні пры каменнай царкве».

## ВІНО ЦІ КНІГІ

Найбуйнейшай рэнесансавай хатняй бібліятэкай ВКЛ быў чатырохтысячны кнігазбор вялікага князя Жыгімонта Аўгуста. На яго густ моцна паўплывала маці, італьянка Бона Сфорца. Жыгімонта выхоўвалі італьянцы, ён з дзяцінства ведаў італьянскую, латынь, польскую і нямецкую мовы (хоць дзве апошнія недастаткова добра).

Каб вызваліцца ад матчынай апекі, малады князь перанёс свой двор з Кракава ў Вільню, туды ж пераехала і бібліятэка (пазней яна размясцілася ў Тыкоціне, дзе было больш зацішна ды бяспечна). Безумоўна, кніжніца з'яўлялася скарбонкай ведаў для князя і яго атачэння. Але ў той жа час яе існаванне было данінай модзе. Кожны адукаваны еўрапейскі манарх абавязкова павінен быў мець багаты кнігазбор. Да таго ж выдаткаў Жыгімонтава бібліятэка патрабавала параўнальна няшмат. Вядома, што за адзін 1546 год двор Жыгімонта патраціў на віно 3705 злотых. У той час як кніжак за 4 гады было закуплена на 2000 злотых.

Сваю бібліятэку Аўгуст пачаў мэтанакіравана збіраць ужо ў дарослым веку, у 27 гадоў. У збіранні дапамагалі два агенты — з Кракава і Вільні. Аснову кнігазбору склалі кнігі бацькоў — Жыгімонта Старога і Боны Сфорцы, якая была вялікай аматаркай гісторыі. Сярод 4000 тамоў — кнігі на вельмі розныя тэмы. Тым не менш можна ўбачыць пэўныя княжацкія захапленні.


*Януш Радзівіл.*

Так, маецца мноства антычных тэкстаў — грэчаскіх і грэка-лацінскіх, шмат кніг па праве, медыцыне (з апошнімі дасягненнямі ў анатоміі, хірургіі, ветэрынарыі). Жыгімонт чытаў гістарычныя і геаграфічныя кнігі са звесткамі пра многія куткі свету, а таксама захапляўся астраноміяй (перыядычна віленскі майстра Рэтык рабіў на яго замову пэўныя астранамічныя прылады).

У бібліятэцы было мала кніг па астралогіі, папулярнай і ў тыя часы. Сам Жыгімонт вельмі іранічна выказваецца ў сваіх лістах пра гэту галіну ведаў і яе верагоднасць. У той жа час ён шмат чытае па магіі ды алхіміі. Вядома, што ў канцы жыцця ён паспрабаваў выклікаць дух любай яму Барбары.

Хоць вялікі князь быў каталіком, ён меў кнігі Кальвіна, Лютэра, іншыя пратэстанцкія выданні, дасланыя самімі аўтарамі ці еўрапейскімі кіраўнікамі. Жыгімонт усё прымаў з удзячнасцю.

Лёсы кніжных збораў перакручваліся з лёсамі іх уласнікаў і аказваліся не менш цікавымі. Пасля згасання роду Гаштольдаў маладому Жыгімонту Аўгусту дасталіся не толькі землі ды бібліятэка магнатаў, але і ўдава апошняга Гаштольда, Барбара Радзівіл, якая стала жонкай караля. Бяздзетнасць Жыгімонта вызначыла лёс чатырохтысячнага кнігазбору. Пасля яго смерці ў 1572 годзе кнігі адышлі толькі што заснаванай езуіцкай вучэльні ў Вільні — будучаму Віленскаму ўніверсітэту.

## SPRECHEN SIE DEUTSCH?

Набор моў, на якіх чыталі вялікалітоўскія шляхціцы XVI стагоддзя, выразна дэманструе мультылінгвістычнае становішча, што склалася ў дзяржаве. Тут размаўлялі на старабеларускай, літоўскай, польскай, лацінскай, яўрэйскай, татарскай, а чыталі яшчэ і па-царкоўнаславянску, па-нямецку, па-французску, па-чэшску, па-італьянску… Падсудак навагрудскага земскага суда Фёдар Еўлашоўскі ўмеў карыстацца старабеларускай, польскай мовамі і нават пісаць на ідыш: «А на пятым годзе жыцця пачаў я займацца навукай рускай, у тыя часы ў нашым краі не было яшчэ іншых навук. І таму застаўся я з рускаю і польскаю навукай, і па-жыдоўску напісаць умею». Праўда, заначае ён, напісанне гэта патрабуе ведання стараяўрэйскай ці хаця б нямецкай мовы.

Мода на вывучэнне нямецкай прыйшла ў ВКЛ у сярэдзіне XVI стагоддзя. Мікалай Радзівіл Сіротка пісаў сваім дзецям, што вучыліся за мяжой: «Каб нямецкую мову пасля лацінскай як другую вывучылі». Тое ж завяшчаў дзецям і Крыштаф Радзівіл: «Тыя дзве мовы (лацінская і нямецкая) — самае патрэбнае ўменне для ўсіх грамадзян нашых». Выезды ў Германію на вучобу адбываліся з пачатку XVI ст. Але Жыгімонт Стары забараніў шляхце навучацца ў шэрагу нямецкіх універсітэтаў, каб спыніць распаўсюджанне пратэстантызму ў ВКЛ. Выезд з краіны не мог адбыцца без пашпарта за подпісам караля. Забарона на выезд перастала дзейнічаць пры Жыгімонту Аўгусту, які сам цікавіўся рэфармацыйнымі ідэямі.

XVI стагоддзе цалкам змяніла стаўленне да кніг і кнігазбору. Цягам жыцця трох пакаленняў, з цуда, недасяжнага носьбіта таемнай веды кніга ператварацца у рэчаіснасць — аб'ект спасцігнення, збірання і любові.

**Паліна СКУРКО**

Паралелі

# Без чарнавікоў і настальгіі

Яна ў пяць год прачытала «Вайну і мір», з юнацтва захапляецца Борхесам, не любіць раман Стывена Кінга «Могілкі свойскіх жывёл», верыць у рэальнасць прасторы, створанай у літаратурным тэксце, ніколі не робіць чарнавікоў і не зазірае ў выходныя дадзеныя ўласных кніг. Яна ўжо шмат год жыве ў Вільнюсе, вельмі любіць гэты горад — бо ён пахне «Берлінам яе дзяцінства», піша чароўныя «Казкі старога Вільнюса», падзеі кожнай з якіх адбываюцца на адной з вуліц старога горада…



Фота з інтэрнэт-сайта nmm.me

## СПРОБА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА МАКС ФРАЙ

Яна прызнаецца, што не ведае, як яе называць — Святлана Юр'еўна Мартынчык, Макс, Марта, — адчувае сябе «чалавекам без імені» і не мае візіткі, бо дагэтуль вагаецца, што на ёй напісаць, каб не падмануць суразмоўцу. Яна то іскрыста жартуе — так, што аўдыторыя залівaецца смехам, то становіцца надзвычай сур'ёзнай і паказвае сапраўдную глыбіню філасофскага асэнсавання жыцця і пісьменніцкай творчасці. Падчас сустрэчы ў Мінску яна з лёгкасцю «дырыжыруе» натоўпам прыхільнікаў сваёй творчасці, больш як паўтары гадзіны нон-стопам адказвае на пытанні і толькі добра стаміўшыся, сціпла просіцца выйсці папаліць.

Адданыя прыхільнікі творчасці любімага аўтара падчас імпрэзы ў сталіцы атрымалі ад Марты адказы на зусім розныя пытанні — пра стомленасць ад герояў сваіх кніг, сяброўства і сяброў, правільныя націскі ў назвах і імёнах з яе твораў, планы па працягу ўжо вядомых раманаў, любімую кавярню ў Вільнюсе, музыку, тэлепраграму, казку дзяцінства, стаўленне да мумі-троляў Туве Янсан, сацыёнікі, а таксама пра тое, чаму трамваі такія чароўныя… Хтосьці з прысутных нават прызнаўся, што неяк падчас сесіі ў яго сарвалася падрыхтоўка да экзаменаў — выйшлі два тамы «Хронік Еха» Макс Фрай. І вельмі многія падыходзілі, каб проста атрымаць аўтограф любімага пісьменніка і абняць чалавека, з якім гэты самы пісьменнік жыве ў адным целе (так, тут усё правільна!).

Намаляваць творчы партрэт Макс Фрай вельмі складана. Таму з мазаікі мноства адказаў на розныя пытанні выбрала літаратурна-філасофска-пісьменніцкія шкельцы, якія характарызуюць яе стаўленне да творчасці, паказваюць адметнасці адчування пісьменніцай таго самага genius loci Вільнюса. І ў той жа час нам, чытачам, даюць ключык да разумення і «Казак старога Вільнюса» (дарэчы, хутка пабачыць свет ужо трэці том гэтага праекта), і іншых твораў аўтара.

## ПРА ВІЛЬНЮС І НАТХНЕННЕ

— У «Казках старога Вільнюса» аўтарскі голас адказвае поўнае знікненне гэтага самага аўтарскага голасу і ўключэнне голасу горада. Я ўпэўнена, што «Казкі старога Вільнюса» належаць самому гораду. Аўтар, які сядзіць перад вамі, выступіў толькі ў якасці неблагога інструмента для рэалізацыі задумы горада. Магчыма, казкі доўгі час прыдумваў сам Вільнюс, а маё з'яўленне яго натхніла на іх літаратурнае ўвасабленне. Адметна таксама, што некаторыя рэчы, рэаліі, людзі пасля з'яўлення ў казачнай, літаратурнай форме з рэчаіснасці проста знікаюць. Адна за другой знікаюць апісаныя ў гісторыях кавярні, паркі закрываюцца, там рамонт... З іншага боку, часам штучна створаныя ў гісторыях рэаліі ўвасабляюцца ў жыццё. Да прыкладу, на нейкай вуліцы для сюжэта мне патрэбна, каб людзі сядзелі ва ўтульнай кавярні, у рэчаіснасці яе пакуль там няма, але праз некаторы час кавярня і сапраўды з'яўляецца на той самай вуліцы, дзе я яе прыдумваю.

Горад змяняецца. І мне падаецца, што самая вялікая ўдзячнасць горада за мае казкі ў тым, што я магу назіраць гэтыя змены. Часам выпадкова трапляю ў месцы, дзе вельмі добра бачна, што перамены адбыліся, ці мне трапляюцца людзі, якія дапамагаюць заўважыць гэтыя самыя змены.

## ПРА ФОТАЗДЫМКІ СТАРОГА ГОРАДА

— Калі мне было 10 год, бацька выйграў у латарэю фотаапарат «Вілія». Ён аддаў яго мне, я бегала, здымала. Тыя фота нельга было назваць геніяльнымі, але сам працэс фатаграфавання мне тады падабаўся. Ішлі гады, і калі я ўжо жыла ў Вільнюсе, вельмі часта хацелася фатаграфаваць, каб паказаць сябрам нейкія прыгожыя мясціны. Паступова гэта стала звычкай. Вопыт паказвае: калі шмат год працаваць у адным кірунку, то ёсць верагоднасць, што адбудзецца цуд. Я не ведаю, як гэты цуд са мной адбыўся, але мае бяздарныя фотаздымкі аднойчы сталі чымсьці асэнсаваным. Думаю, тут таксама не абышлося без дапамогі горада, магчыма, ён сам, як дасведчаная фотамадэль, паказваўся мне з правільнага ракурсу. Напэўна, яму надакучыла на маіх фотаздымках быць падобным да жабы. Магчыма, па гэтай жа прычыне ўсе свае самыя лепшыя здымкі я раблю ў стане, падобным да сну. Часам мне нават падаецца, што такія фота проста выпадковасць.

## ПРА «ЭФЕКТ ЧУЖАНІЦЫ»

— У многіх «Казках старога Вільнюса» галоўны герой не так даўно прыехаў у гэты горад. Я раблю такі ход, бо зразумела, што ў таго, хто прыехаў нядаўна, намнога больш шанцаў уступіць у вострыя прыватныя адносіны з горадам, прасторай і месцам. Усё новае. Я жыву ў Вільнюсе шмат гадоў, ведаю людзей, якія сапраўды любяць горад, але яны нарадзіліся не тут. Прыехалі вучыцца, працаваць. І нават новы мэр Вільнюса, які так клапоціцца пра сучасную сталіцу Літвы, родам з Каўнаса. Я заўважаю таксама, што карэнныя жыхары, якія тут нарадзіліся, не надта і любяць яго, не любяць прагулкі па вузкіх вуліцах у цэнтры, яны лепш паедуць за горад. Але, думаецца, здараюцца і шчаслівыя выключэнні, калі чалавеку ўтульна ў тым горадзе, дзе ён нарадзіўся і пражыў усё жыццё.

## ПРА ПІСЬМЕННІЦТВА

— Для пісьменніка апошняя напісаная кніга — самая любімая. Толькі-толькі напісаў і захапляешся. Вось ужо трэці том «Казак старога Вільнюса» дапісаны, і я радуюся таму, якія там гісторыі, якія тэксты! Потым напішацца нешта яшчэ, і яно ўжо будзе галоўным.

Многія кажуць, што ім добра пішацца ў стане стрэсу, гора, калі ўсё кепска. У мяне ж у такім выпадку нічога не атрымліваецца. Каб пісаць пра ўзвышаныя рэчы, мне патрэбна быць румяным, ружовашчокім, усім задаволеным «свінтусам». У той жа час я разумею, што літаратура робіцца чалавекам, які знаходзіцца ў некаторым сэнсе ў змененым стане свядомасці. Таму той, хто атрымлівае прэмію, выслухоўвае кампліменты, ці наадварот, той, на каго сварацца, да таго, хто гэты тэкст пісаў, мае вельмі малыя адносіны. Так, яны жывуць у адым целе, ядуць адзін бутэрброд на сняданак і выжыванне аднаго залежыць ад выжывання другога. Але гэта настолькі розныя асобы, настолькі розныя станы свядомасці, што неабгрунтавана было б мне прымаць на свой рахунак усё, што кажуць пра тэксты. Натуральна, мне цікава, але я разумею, што гэта не пра мяне, а пра кагосьці іншага.

Ёсць такая парада: калі можаш не пісаць, то лепш не пішы. Мне падаецца, што гэтая фраза была сказана кімсьці вельмі ганарлівым. А можа і не, бо тут хаваецца і зерне праўды. Жыццё, прысвечанае стварэнню тэкстаў, па праўдзе кажучы, — не самае лепшае, што можа здарыцца з чалавекам. Гэта, канечне, вельмі вялікае шчасце, але яно прыносіць і шмат нязручнасцей: гэта жыццё, прысвечанае служэнню. Стаць пісьменнікам — у некаторым сэнсе азначае пайсці ў манастыр з вельмі жорсткім статутам, таму што ў выніку ўсё тваё існаванне падпарадкоўваецца толькі адной патрэбе — ствараць тэксты.

## ПРА ПАВІЧА

— Мы з Павічам сустрэліся ў Маскве, якраз у той час, калі я працавала на тэлебачанні. Я павінна была ўзяць у яго інтэрв'ю. Але але яно так і не пабачыла свет, таму што мы з Павічам амаль тры гадзіны проста размаўлялі пра нейкія свае літаратурныя справы. Тады я і распавяла пра задумку ідэальнага рамана, які складаўся б з апошніх абзацаў розных выдуманых кніг. Павіч сказаў: «Якая ідэя! Можна напісаць розныя тэксты розных выдуманых аўтараў». І пабег рабіць свой «Папяровы тэатр». Я вельмі шчаслівая тады была, што ён сваю кнігу прыдумаў менавіта ў дыялогу са мной, мне ж за гэта — замест аўтографа — памаўчаў у пустую бутэлечку. Потым, калі мы пераехалі ў Вільнюс, гэтая бутэлечка згубілася. Мне заўсёды карцела яе адкаркаваць, каб паглядзець, што будзе. Таму, калі раптам у свеце настане поўная цішыня, ведайце: я знайшла бутэлечку з маўчаннем Павіча.




## ПРА ПЕРАКЛАД І ПЕРАКЛАДЧЫКАЎ

— Для мяне пераклад і праца перакладчыка — чыстае чараўніцтва. Гэта мост паміж мовамі, культурамі, кантэкстамі. Самае неверагоднае, што можна зрабіць, — добры пераклад! Гэта выключная рэч. Таму калі я даведваюся, што чалавек, з якім я пазнаёмілася толькі што, — перакладчык, першае, што адчуваю, — захапленне. А ўжо потым пачынаю разбірацца, ці добры ён перакладчык. Мне важна не тое, што ён ведае мову, а тое, што бярэцца перакладаць. Пагадзіцеся, нават калі два чалавекі размаўляюць на адной мове, то яны адзін аднаго не цалкам разумеюць — розныя сэнсавыя адценні, эмацыянальныя кантэксты фразы. А пераклад робіцца не столькі з мовы на мову, колькі з кантэксту ў кантэкст. Магія!

Якраз пасля згадкі пра пераклад варта зазначыць, што «Казкі старога Вільнюса» ўжо можна пачытаць і па-беларуску. Штотыдзень адзін твор Макс Фрай у перакладзе Адэлі Дубавец з'яўляецца на сайце *bookster.by.* Дарэчы, падчас сустрэчы перакладчыца адзначыла, што казкі, у якіх напачатку няма зусім нічога беларускага, пасля перастварэння на нашай мове нібы паказваюць новыя бакі сваёй існасці. Яны становяцца такімі цёплымі, блізкімі, знаёмымі. Сапраўды магія, пра якую казала Марта. А можа, у казках па-беларуску сам горад паварочваецца да чытача зусім іншым бокам, паказвае іншы твар, іншую сутнасць — стары Вільнюс ператвараецца ў нашу родную Вільню.

Марына ВЕСЯЛУХА

# У госці да Бегемота

**Масква пачалася з упартага дажджу. Ён сыпаў ноччу, пакуль цягнік ленавата трухаў наперад, пакуль усе спалі, гучна пасопваючы, а ў тамбуры, міргаючы, гарэла самотная лямпачка. Ён сыпаў, калі цягнік прыпыніўся, калі бурклівыя пасажыры, нагружаныя клункамі, выбіраліся з абжытых купэ на перон.**




Ён сыпаў на лысіны, на рудыя, русыя, чарнявыя галовы, на фуражкі і капелюшы. З шэрага няўстойлівага марыва выплывала Масква — шумлівая, працавітая, дзелавая. Жывая, усмешлівая — хуталася ў дождж, быццам у вэлюм.

Я глядзела на горад і міжволі прыгадвала, як глядзеў, як бачыў гэты моцны, энергічны, гучны горад іншы чалавек. Аддзелены часам, ён нібыта застаўся тут і нібыта быў побач, калі з'явілася за акном таксі цёмная квадрыга на франтоне тэатра, калі ўздыхалі пад шынамі шырокія — такія нязвыкла прасторныя — вуліцы. Той, другі, калісьці пачуў, як Масква — гучыць. Яна гучала і цяпер, і голас яе быў нямоўчным і моцным.

Той, другі, што слухаў і пачуў, — Булгакаў. Уласна, ехала я ў Маскву найбольш, нават у першую чаргу, дзеля яго і да яго. Можна сказаць, у госці. Праўда, нахабна, без запрашэння.

Справа ў тым, што колькі гадоў таму адшукала ў сеціве водгукі задаволеных турыстаў. Ім пашчасціла трапіць у тую самую «нядобрую кватэру», і яны бессаромна хваліліся, прыкладалі фота і выказвалі жаданне завітаць туды яшчэ раз. Я гучна сапла, прагортваючы гэтыя старонкі ў сеціве, скрыгатала зубамі ад зайздрасці і думала сабе: «Ну вось як толькі, дык адразу ж».

Гэтае «адразу ж» зацягнулася на год з нечым, але — вось. Адбылося. Эскалатар нясе мяне ўверх, прэч ад імклівых электрычак, серабрыстыя прыступкі шэпчуцца, усхліпваюць. Наперадзе маячыць бляклае святло шэрага, да верху поўнага шапаткой вады дня. Пятага дня верасня.



Варта выйсці з метро — сустракае Маякоўскі. Мокры, чорны, паглядае незалежна, горда, але падаецца самотным. На плошчы ля помніка бязлюдна, адно мы з Маякоўскім і колькі галубоў, але тыя, як вядома, літаратурай не цікавяцца. Гляджу ўверх, у суровы чорны твар, гляджу, закінуўшы галаву, знізу ўверх. Галубы, шумна пляскаючы крыламі, узнімаюцца ў неба, вышэй за дахі, вышэй за галаву паэта. Дождж сыпле, выбівае на маім парасоне кульгавыя ямбы.

Па Садовай, дзе — ва ўяўленні ды ў *Google Maps* — хадзіла сотню разоў, з картаю горада ў руках. У вокнах плывуць адбіткі машын, крочаць адбіткі людзей. Парасон спрабуе вырвацца з рук, за каўнер падаюць важкія халодныя кроплі. Пад хлюпанне вады ў кедах мільгае шчымлівая думка пра рыбацкія бахілы.

Першая згадка, першы голуб, першае вітанне ад Булгакава: у тэатры сатыры ідзе ягоная п'еса. Міхаіл Шырвінт у парыку глядзіць пранізліва і сумна кудысь за мяне, пад белымі літарамі «Мальер: Кабала святош» дробнымі цёмнымі — «Міхаіл Булгакаў». Тут жа, ля афіш, пераразаю дарогу сімпатычнай бабулі з каляровым парасонам (на манер Шумахера, ага).

— Скажыце, ці правільна іду да музея?

Бабуля падымае бровы. У празрыстым пакеце аранжавеюць апельсіны. Іду, як выявілася, правільна. «Унь там, бачыце? Арка. А за ёю той музей і ёсць». Мармычу падзяку і — наперад, цераз лужыны, у якіх плывуць пульхныя хмары. Побач маладая маці вядзе дробнага хлопчыка за руку, трымае над ім дзіцячы парасон — божую кароўку. У самой у цёмных валасах серабрацца кроплі.

Белыя шыльды «Садовая 302-біс» мокнуць пад дажджом. Успамінаецца: «Мы тут недалеко, на Садовой, где пожар». Пад сырой аркаю за жалезнымі варотамі паліць мужчына. Кроплі вады на белым каўнеры і гальштуку.

— Скажыце, а музей Булгакава тут?

— Тут. Я працую непадалёк, ведаю дакладна.

— Значыць, былі?

— Я? — саромеецца. — Ну...

— А вы схадзіце, — кажу. — Абавязкова. А?

Хітае галавой, усміхаецца, выдыхае шызы дым. На белых сценах — ілюстрацыі да «Майстра і Маргарыты». Бегемот падчапіў грыбочак відэльцам, Маргарыта стаіць у атачэнні світы. Легкія, тонкія, жывыя штрыхі, падобныя да нечых сненняў.

З-пад аркі — у дворык. Дождж лупіць па даху чырвонага аўтобуса для экскурсій, з шыльдаў насмешліва глядзіць Булгакаў. Кароўеў і Бегемот застылі ў бронзе, салодкая дэманічная парачка. Глядзяць з'едліва, пасміхаюцца.

«У меня, может, полный примус валюты», — прагаворваю сабе пад нос, прыгадваючы булгакаўскія радкі. Прымус у гэтых дваіх, натуральна, з сабою і таксама з бронзы.

Тут жа, каля прыяцеляў, уваход у «Булгакаўскі дом». Трохі далей, аранжавым, ярка і кідка сярод шэрага, — шыльда «Кватэра № 50». Стрэлкі на гадзінніку сыходзяцца на дванаццаці. Набіраю патрэбныя лічбы на дамафоне — і металічныя дзверы адчыняюцца, лёгка падаюцца наперад.

У пад'ездзе пад столлю гуляе халаднаватае рэха. Са сцен глядзіць размножаны ў іпастасях чорны кот: у капелюшы, з манаклем, з марынаваным грыбочкам. Былыя наведвальнікі раяць часаць ката, дзеляцца ўражаннямі, нагадваюць, што Воланд усё ведае (анягож!), ды проста пішуць свае імёны і даты. Літары і малюнкі звіваюцца, танчаць на светлай фарбе, з вокнаў льецца слабое святло. Падымаюся наверх, круцячы галавою, вывучаючы графіці. Прыпыняюся: на прыступках абазначаны сіняй фарбаю дробныя каціныя сляды.

Пралёт не дайшоўшы да чацвёртага паверха, прыпыняюся зноў. Стаю, зніякавеўшы, здзівіўшыся. Дый як не здзівіцца? Ля дзвярэй па левую руку сядзіць кот. Сапраўдны кот. Вялікі, чорны, распушыў шыкоўны хвост, мружыць залатыя вочы. Глядзіць на мяне.

— Добры дзень, — гэта я кату. Той толькі чмыхае.

Сядаю на кукішкі побач, чашу гаспадара кватэры за вушкам. Папярэднія наведвальнікі кепскага не параяць. Сказалі — трэба часаць ката, значыць, трэба часаць. Традыцыя.

У кватэру заходзім разам. Кот як асоба вольная і, можна сказаць, супрацоўнік музея праходзіць без білета, бязгучна знікае ў паўзмроку калідора, раствараецца ў ценях. Я мнуся на парозе, чакаю білета, дазволу на фотаздымкі. Са сцяны глядзіць Булгакаў у капелюшы.

Тут жа, у пакойчыку поруч, трэба надзець бахілы — «паркет». Улічваючы, наколькі мокрыя ў мяне кеды, гэта, бадай што, самае мудрае рашэнне. У калідоры з асветленых рам глядзяць цені: Понцій Пілат, Іешуа, Майстар і Маргарыта. На адной раме з форткі доўгая рука цягнецца, і лёгкі скразнячок кратае патыліцу. Зразумела, чаму пасівеў Рымскі.

Найперш паварочваю на кухню. Кот пухнатым жаўтавокім ценем выцякае з-за вугла, тупае за мной, цікуе, сочыць, каб паводзіла сябе прыстойна. На кухні — блакітнаваты паўмрок, лямпачкі на экспазіцыі ярка гараць. На пажарным шлеме — жоўтыя, быццам каціныя вочы, тлустыя блікі, тут жа чорны прас і посуд у мойцы звалены. Падлога, сцёртая сотнямі ног, суха парыпвае. На шафе — ажно сціскаецца сэрца — дзіцячая цацка-качалка, размаляваны конік.

У кабінеце зялёная лямпа на стале, кнігі на разной паліцы. З партрэтаў, з фота глядзіць Булгакаў, заўжды розны і заўжды падобны да самога сябе. Утульна, цёпла, кола святла на старонках вабіць да сябе. Над ім на кніжным стосе чорна замест «Накануне» наклеена — «НУНЕНАКА». Быццам хтось толькі-толькі прачнуўся, і цягне, пазяхаючы, і трасе галавой. І гэтак утульна чамусьці, быццам гаспадар толькі-толькі адышоў ад стала, пакінуўшы працу пад лямпай, і хутка вернецца, пачне гартаць кніжкі, шукаючы патрэбную старонку.



Побач жоўты абажур рассыпае святло. На белых старонках вялікага сшытка — водгукі і падзякі турыстаў. Швейная машынка адпачывае поруч з манекенам, вялікая канапа пад люстрам так і вабіць. Калі верыць шыльдам, Воланд сочыць за мной у кожным пакоі «нядобрай кватэры». Сустракаюся позіркам з уласным адбіткам у вялікім люстры, паварочваю галаву. З калідора за мною цікуе кот — разваліўся проста на падлозе, прымружыў вочы.

А першай гадзіне ў вузкім калідорчыку не прадыхнуць: школьнікі, што пачынаюць вывучаць творчасць Булгакава, ідуць, весела перагаворваюцца. Цені ў кутах неяк скурчваюцца, класныя кіраўнікі голасна пакрыкваюць, пакуль вучні скідваюць мокрыя курткі, нацягваюць бахілы. Дзве дзяўчынкі, што здолелі праціснуцца раней за астатніх, старанна спрабуюць наладзіць кантакт з абарыгенам — то бок з катом:

— Мяў, мяў, мяў! Мяў? О, ты чула? Ён мне адказаў!

Кот фанабэрыста чмыхае носам. Ён, натуральна, і не думаў падтрымліваць размову, але праца ёсць праца. Становішча абавязвае.

Асцярожна выслізгваю з радоў школьнікаў, што прарываюцца ўглыб. Хтосьці, напіраючы, зачапіў табурэт, на якім стаіць велізарная шкляная бутэлька з подпісам «Аннушке на масло», і ахвяраванні для Аннушкі глуха дзынкаюць. Лесвіца дыхае прахалодай, рэха заблыталася ў графіці. «Дзе знаходзіцца Грыбаедаў? Булгакаў геній. Бегемот клёвы!» — прамаўляюць сцены на розныя галасы.

Спускаюся ў дождж, праходжу пад аркай, дзе крокі гучаць гулка, дзе ў медытатыўную цішыню дворыка ўжо праліваецца гарадскі шум. Пераскокваючы цераз лужыны, паварочваю ў кавярню побач. Тут, седзячы насупраць акна, гледзячы на горад за акном паўзверх кубка гарбаты, ад якой пахне чаборам, думаецца лёгка і ясна. Не стрымаўшыся, лезу ў торбу па нататнік і асадку. Таропка гартаю старонкі. Дождж мяккай лапай скрабецца па шкле, шапоча пад шынамі, разбівае адбіткі хмурнага неба ў лужынах. Дождж падказвае, як варта пачаць.

Таму што Масква пачалася — з дажджу.

**Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ,**
**фота аўтара**

# Знакомьтесь: мама Карлсона

14 ноября исполняется 106 лет со дня рождения всемирно известной писательницы Астрид Линдгрен. Возьму на себя смелость утверждать, что насколько она известна, настолько и любима. Невозможно остаться равнодушным к её историям, искрящимся юмором и жизнерадостностью, невозможно забыть её героев. «Своими книгами я не пыталась воспитывать или поучать детей. Во время работы я не думала ни о литературе, ни о педагогике. Меня больше занимало и радовало то, что я снова становлюсь ребёнком… Я писала только такие книги, которые были мне по сердцу и от которых я сама получала удовольствие. Без этого не может быть уверенности, что написанное увлечёт кого-то ещё». Так писала сама Линдгрен, и, как показывает жизнь, она не ошиблась в расчётах. Но прежде чем рассказать о книгах, неплохо бы вспомнить о человеке, их написавшем.

## АСТРИД ЛИНДГРЕН. ПРЕДЫСТОРИЯ

Однажды Самуэль Август Эрикссон, семнадцатилетний юноша из Севедсторпа, маленького шведского городка, отправился на рынок. Там он увидел девочку с огромным бантом на голове. Юноша влюбился. Однако ему пришлось ждать четыре года — до тех пор, пока девочка не вырастет до невесты. И он дождался. Так Ханна из Хюльта стала женой Самуэля. Первым у них родился мальчик. Второй — девочка, которой дали имя Астрид. Спустя 66 лет со дня её рождения в свет выйдет книга «Самуэль Август из Севедсторпа и Ханна из Хюльта» — единственная книга Линдгрен, рассчитанная на взрослую аудиторию.

У Астрид было счастливое детство. В семье росли брат и две младшие сестры. Родители ладили с детьми и всегда относились с любовью и глубоким уважением друг к другу. Астрид проводила много времени на природе. Дни сменялись неспешно, в работе и нехитрых детских играх. Подобное спокойствие всегда становится основой для формирования личности, способной на протяжении всей жизни сохранять гармонию. Без этой гармонии вряд ли сумела бы Астрид Линдгрен создать неспокойных и шумных Карлсона и Пеппи Длинныйчулок.

Однако не всё в её жизни было гладко. Окончив школу, шестнадцатилетняя Астрид устраивается на работу в местную газету, а спустя два года судьба посылает ей тяжкое испытание: девушка беременеет, не будучи замужем, и… решает родить ребёнка. Так на свет появился Ларс. Денег не хватало, и малыша пришлось отправить в Данию, в приёмную семью. А через три года Астрид встречает Стуре Линдгрена, выходит за него замуж и возвращает горячо любимого сына.

После свадьбы Астрид Линдгрен становится домохозяйкой и пишет незатейливые сказки для «семейных журналов». Но однажды…

## ОЧЕНЬ СИЛЬНАЯ ДЕВОЧКА

Маленькая дочка попросила Астрид сочинить историю о девочке по имени Пеппи Длинныйчулок. Малышка Карин болела воспалением лёгких, и мама развлекала её по вечерам забавными историями. Самое удивительное, что имя для будущей героини маминых книжек девочка придумала сходу. Какую замечательную вещь сделал этот ребёнок!

Итак, в 1945 году Пеппи поселяется на вилле «Курица». Продолжение приключений капитанской дочки вышло через год, потом через два, потом — в 1979-м, а последний рассказ о рыжеволосой сорвиголове появился в 2000 году. Все повести, посвящённые Пеппи, собраны в книге **«Малыш, Карлсон и все-все-все»**.




Как вы уже могли понять, увесистый томик вместил не только Пеппи и её милых друзей Томми и Аннику, не только корабль «Попрыгунья» со всем экипажем, не только отца и капитана Эфроима Длинныйчулок (он же негритянский король) и остров Веселия со всеми его 116 жителями — в книге нашлось место и для Малыша с его семьёй и собакой, и для Карлсона с его домиком на крыше, и для фрёкен Бок… Действительно, здесь есть все-все-все.

Но и это ещё не всё. В книгу вошли повести «Приключения Эмиля из Лённеберги» и «Рони, дочь разбойника». Однако вернёмся к Пеппи Длинныйчулок.

В 1930 — 1940-е годы, как раз в то время, когда появилась на свет Пеппи, в области детской психологии разгорались нешуточные споры. Причиной их стала новая теория, гласившая, что ребёнка нужно воспитывать согласно его же видению мира, обращаться к мыслям и чувствам маленького человека. И Астрид Линдгрен выступила на стороне новой теории.

Потому неудивительно, что её Пеппи получилась такой свободолюбивой. Это ребёнок, который презирает все условности, обязанности (но не долг), правила. Её необычный внешний вид уже даёт понять, что ребёнка этого не усадишь за школьную парту и уж тем более не заставишь сидеть, ровно сложив руки. Рыжие косы, веснушчатое лицо, озорная улыбка; платьице с пёстрой заплаткой и чулки один длиннее другого, да к тому же разноцветные. Но самый странный предмет гардероба Пеппи (кстати, полное имя героини — Пеппилотта Виктуалия Рульгардина Крисминта Эфроимсдоттер Длинныйчулок) — это башмаки, вдвое большие, чем в том нуждалась девичья ножка. Отец подарил их дочке навырост, и Пеппи наотрез отказывалась носить другую обувь.

Неспроста Астрид Линдгрен наделила Пеппи невероятной физической силой. Помните, у девочки была лошадь, «пасшаяся» на террасе? Пеппи частенько носила её на руках. Позже Пеппи победила самого сильного парня в мире, когда тот приехал в их маленький городок с бродячим цирком. Также Пеппи подбрасывала в воздух отпетых хулиганов, усмиряя их буйный нрав. Эта сверхъестественная сила играет одновременно две важные роли. Первая лишний раз подчёркивает необычность ребёнка, его неординарность. Вторая, более важная, — перенос силы духовной на физическую, как бы её материализация. Здесь стоит перечислить испытания, выпавшие на долю девочки. С первых страниц мы видим, что Пеппи — сирота. Во всяком случае, живёт она сиротою, одна-одинёшенька, в запущенном старом доме. Нет никого, кто накормил бы её, утешил, уложил спать. Соседские ребята Томми и Анника, добрые, но совершенно заурядные, типичные, удивлялись: если ты одна, то кто же тебе говорит по вечерам: «Пора ложиться спать»? Ответ Пеппи прост: «Сама себе говорю. Сперва я говорю себе очень ласковым голосом: «Пеппи, ложись спать». А если я не слушаюсь, то повторяю уже строго. Когда и это не помогает, мне от себя здорово влетает. Понятно?»

Матери Пеппи лишилась совсем малюткой. Но и теперь, оставшись без отца, она не плачет, не жалеет себя, но подбадривает — кого бы вы думали? — покойную мать. Она поднимает глаза к небу и кричит ей: «Не бойся, мама, я не пропаду!»

И действительно, Пеппи Длинныйчулок не пропадает. Даже тогда, когда ей угрожает серьёзная опасность, например, со стороны воров, которые пробираются в дом, чтобы похитить чемодан с золотом. В книге Пеппи расправляется с ними благодаря своей силе. Но только ли физической? Если бы не спокойствие и бодрость духа, если бы не редчайшая мудрость и чувство юмора, много ли толку было бы от сильных рук? Кроме того, Пеппи совершенно не переносит лжи, заносчивости, гордыни, хвастовства и прочих низменных качеств, которые встречаются в мире куда чаще, чем сильные и смелые девочки.

## АЛЬТЕР-ЭГО ПРИЛЕТЕЛО С КРЫШИ

Что же Карлсон? Критики пишут, что Малыш и Карлсон — две стороны одной медали. Когда Малыш чувствует себя особенно одиноко, когда он беззащитен и уязвим, появляется Карлсон. Так компенсируется пустота, возникающая в душе мальчика. В образе обаятельного мужчины в самом расцвете сил воплощаются те качества Малыша, которые он в себе подавляет вследствие воспитания и влияния со стороны общества: эгоизм, эксцентричность, обжорство, легкомысленность, лживость. Если так, получается не милый дуэт, а какие-то доктор Джекил и мистер Хайд. Остаётся только радоваться, что не доктор Франкенштейн и его монстр.

Но, скорее всего, суть повести схвачена верно. И тем не менее нам всё представляется в несколько ином, не таком мрачном свете. Припомните самые известные литературные дуэты. Остап Бендер и Киса Воробьянинов, Шерлок Холмс и доктор Ватсон. Если вернуться к детской литературе — это будет хитрое животное, которое помогает несчастному, несколько глуповатому человеку; пример такого животного — Кот в сапогах. Если обратиться к популярным мультяшным образам — Шрек и Осёл.

К чему этот парад воспоминаний? Все эти пары разные, очень разные, но есть у них кое-что общее. Так, один из героев — изобретательный, неунывающий, смелый и сильный; другой — мягкосердечный, тихий, спокойный, несколько медлительный. Классическое «противоположности притягиваются». Первый тип, как ни странно, находит силы именно благодаря второму, его верные и преданности, его надёжности. И наоборот, второй тип становится смелее, находчивее благодаря первому. Карлсон и Малыш — тот же дуэт, но описан он языком, понятным ребёнку. Малыш был готов на всё ради «пропеллерононосного» друга, даже уничтожить паровую машинку, даже украсть тефтели у мамы, даже воевать с фрёкен Бок! А Карлсон, в свою очередь, сам не заметил, как привязался к мальчику. «Ты, конечно, всего-навсего маленький грязнуля, но всё же ты мне нравишься… Да, странно, но всё-таки я очень к тебе привязался, глупый мальчишка».

## ЮНЫЙ СЫЩИК КАЛЛЕ БЛЮМКВИСТ

Во время работы над повестями о Пеппи Длинныйчулок Астрид Линдгрен создала ещё одну историю, главным героем которой стал Калле Блюмквист




— 13-летний мальчишка, мечтающий затмить славу Шерлока Холмса и Эркюля Пуаро. Как известно, если сильно чего-то хотеть, желание исполнится. И вскоре Калле предоставляется возможность испытать свои силы в деле: он нападает на след настоящего грабителя. А когда игра становится опасной, на помощь сыщику приходят друзья.

Трилогия о Калле Блюмквисте, а также две повести — «Расмус-бродяга» и «Расмус, Понтус и Растяпа» — составили книгу под названием **«Настоящие повести для настоящих мальчишек и девчонок»**.

**Анастасия ГРИЩУК**

Повязі

# Пад зоркай Кабзара

Восьмы Міжнародны кангрэс украіністаў праходзіў у Кіеве 21 — 24 кастрычніка 2013 г. пад назвай «Тарас Шаўчэнка і сусветная ўкраіністыка: гістарычныя інтэрпрэтацыі і сучасныя рэцэпцыі (да 200-годдзя з дня нараджэння Т. Р. Шаўчэнкі)». Яго арганізатарамі выступілі Нацыянальная акадэмія навук Украіны, Міністэрства культуры Украіны, Нацыянальны ўніверсітэт імя Тараса Шаўчэнкі, Міжнародная асацыяцыя ўкраіністаў.

У рабоце форуму бралі ўдзел звыш 500 дэлегатаў з 22 краін. Гэта навуковая эліта з Беларусі, Расіі, Малдовы, Грузіі, Азербайджана, Польшчы, Славеніі, Славакіі, Сербіі, Харватыі, Балгарыі, Германіі, Італіі, Канады, ЗША ды іншых краін.

Пра дзяржаўную ўвагу яскрава сведчыць урачыстае адкрыццё кангрэса 22 кастрычніка ў Калоннай зале Мэрыі Кіева. У мерапрыемстве бралі ўдзел прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта Украіны, Кабінета міністраў, дэпутацкага корпуса Вярхоўнай Рады, Прэзідыума НАН Украіны, а таксама дырэктары гуманітарных акадэмічных інстытутаў.

Падчас работы форуму працавала 19 секцый, 6 круглых сталоў, 2 тэматычныя канферэнцыі: «Айчынная і замежная ўкраіністыка на мяжы стагоддзяў» і «Украінская энцыклапедыстыка».

На секцыйных пасяджэннях выразна дамінавала шаўчэнказнаўства (шаўчэнкіяна). Навукоўцы разглядалі пытанні асэнсавання паэтычнай спадчыны класіка ўкраінскай літаратуры ў мінулым і сучасным, мову твораў, фальклорныя матывы, музычную шаўчэнкіяну, экраннае мастацтва Украіны і інш.

Паводле праграмы кангрэса, беларускай дэлегацыяй былі прапанаваны наступныя даклады: «Геній Т. Шаўчэнкі і беларускі дзяржаватворчы рух на пачатку ХХ ст.» Аляксандра Куксы; «Беларускі польскамоўны пісьменнік Уладзіслаў Сыракомля як перакладчык «Кабзара» Тараса Шаўчэнкі» Вячаслава Рагойшы; «Міфалагічныя ўяўленні беларусаў пра светабудову і прыродных з'явы (на матэрыяле фальклору Гомельшчыны)» Валянціны Новак; «Украінцы ў Беларусі: этнадэмаграфічны аспект» Галіны Каспяровіч; «Украініка, украінска-беларуска-польскія літаратурныя дыялогі ў навуковых даследаваннях і сістэме адукацыі сучаснай Беларусі» Тацціяны Кабржыцкай і Міколы Хмяльніцкага; «Унёсак акадэмікаў першага складу Беларускай акадэміі навук у вывучэнне гісторыі кнігадрукавання» Наталлі Бярозкінай; «Пра выданні Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі» Людмілы Аўгуль.

Аўтарам гэтых радкоў прадстаўлены два даклады на згаданых канферэнцыях: «Пражскія школы ўкраінскай і беларускай літаратур: тыпалогія, кантакты, кантэкст» і «Украінская літаратура на старонках энцыклапеды "Максім Багдановіч"».

За час правядзення адбыліся прэзентацыі фундаментальных і ўнікальных выданняў: Поўнага збору твораў у 12 тамах і факсімільнага выдання «Гайдамакаў» Т. Шаўчэнкі 1841 г., зборніка «Тарас Шаўчэнка ў крытыцы», альбома «Вясковая фатаграфія Сярэдняй Наддняпроўшчыны канца XIX — XX ст.», а таксама навуковых выданняў, прысвечаных актуальным аспектам айчыннай і замежнай украіністыкі, падрыхтаваных Міжнароднай асацыяцыяй украіністаў. Вялікую ўвагу выклікаў вышыты ўручную шаўчэнкаўскі «Кабзар» 1840 г. (вокладка, ілюстрацыі, тэксты), выкананы Аленай Мядзведзевай з Роўна.

Працу кангрэса суправаджаў непаўторны ўкраінскі каларыт: у музыцы, спевах, выстаўленых для азнаямлення работах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Удзельнікі мелі магчымасць наведаць музеі Кіева. Кульмінацыйным момантам стала паездка на месца апошняга зямнога прытулку ўкраінскага Кабзара паблізу Канева. Тут, на ўзгорыстым беразе дарагога сэрцу паэта Дняпра, углядаецца постаць Тараса Шаўчэнкі ў плынь вялікай ракі і неабсяжныя ўкраінскія краявіды.

**Мікола ТРУС**

# Жыццялюб з Вялікага Бору

Доктару гістарычных навук, прафесару Івану Сачанку спаўняецца 75 гадоў.

Ён нарадзіўся 8 лістапада 1938 года ў палескай вёсцы з прыгожай назвай Вялікі Бор Хойніцкага раёна, у вялікай дружнай сям'і. Яго бацька Іван Мікалаевіч працаваў у хімлясгасе. Маці Вера Міхайлаўна хадзіла на працу ў калгас, але галоўным для яе быў клопат пра семярых дзяцей.

Маленства, асабліва вясковае, на ўсё жыццё застаецца ў свядомасці чалавека чароўнай казкай, поўнай дарагіх успамінаў. Хлопчыку не споўнілася і трох гадоў, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна. Вялікі Бор спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі, у агні загінулі 128 аднавяскоўцаў, астатніх жыхароў вывезлі ў Нямеччыну. Сярод іх была і сям'я Сачанкаў.

Аднак далейшы жыццёвы шлях Івана Сачанкі засведчыў, што выпрабаванні не здольныя зламаць Асобу. Вясной 1945 г. сям'я вярнулася на Радзіму. Бацькі імкнуліся даць дзецям адукацыю. Так, у 1957 г. Іван закончыў сярэднюю школу, пазней служыў у Савецкай Арміі, а ў 1960 г. паступіў на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ.

У 1968 г. Іван Іванавіч паступіў у аспірантуру і ўжо ў 1971 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю. У тым жа годзе стаў выкладчыкам кафедры гісторыі журналістыкі факультэта журналістыкі БДУ. Педагагічную дзейнасць малады выкладчык паспяхова спалучаў з навукова-метадычнай працай. За фундаментальны вучэбны дапаможнік «Гісторыя беларускай журналістыкі», падрыхтаваны ў суаўтарстве з прафесарам Р. В. Булацкім і дацэнтам С. В. Говіным, І. І. Сачанка атрымаў званне лаўрэата Усесаюзнага конкурсу за лепшую працу па гісторыі, тэорыі і практыцы друку. У 1982 г., у 44-гадовым узросце, Іван Іванавіч абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Публіцыстыка ў барацьбе супраць фашызму і неанацызму: гістарычны вопыт, традыцыі, практыка».

У 1984-м па ініцыятыве І. І. Сачанкі на факультэце журналістыкі БДУ адкрылася кафедра замежнай журналістыкі і літаратуры. Цяпер яна — адзіная ў Рэспубліцы Беларусь — ажыццяўляе прафесійную падрыхтоўку журналістаў-міжнароднікаў па дзвюх асноўных спецыялізацыях: «Міжнародная журналістыка і палітыка», «Міжнародная журналістыка і эканоміка». Іван Іванавіч Сачанка чытаў лекцыі студэнтам Сафійскага ўніверсітэта, Свабоднага нямецкага ўніверсітэта, Кёльнскага каледжа камунікацый і іншых замежных навучальных устаноў. Студэнты паважаюць і любяць яго не толькі за трывалыя веды. Імпануе пачуццё гумару выкладчыка, аптымізм. Да меркаванняў і парад прафесара І. І. Сачанкі прыслухоўваюцца калегі. За ім — вялікі жыццёвы, навуковы і педагагічны досвед, грунтоўныя веды, інтуіцыя.

Іван Іванавіч памятае свае вытокі — малую радзіму, бацькоў, братоў. Асабліва цёплыя адносіны звязвалі яго з братам Барысам, вядомым пісьменнікам, які быў для навукоўца незвычайна



блізкім па духу чалавекам, дарадцам, сябрам.

Жыццё Івана Сачанкі яркае, багатае на падзеі. У ім увасоблены лепшыя рысы таленавітага роду Сачанкаў і пакалення «дзяцей вайны».

Іван Іванавіч — жыццялюб і аптыміст. Хай заўжды такім і застаецца!

**Тацццяна ДАСАЕВА,**
**доктар філалагічных навук,**
**прафесар, загадчык кафедры**
**замежнай журналістыкі і літаратуры**

# Актрыса і паэт

Літаратурна-дакументальная выстаўка пад назвай «Снілася дзяўчыне…» адкрылася 31 кастрычніка ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Экспазіцыя прымеркавана да 120-годдзя з дня нараджэння Паўліны Мядзёлкі. Пра яе можна казаць шмат і з захапленнем: актрыса, настаўніца, паэтэса, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, прыгожая, таленавітая жанчына, якая прайшла доўгае, цікавае жыццё.

Паўліна Мядзёлка — першая выканаўца ролі Паўлінкі ў аднайменнай п'есе Янкі Купалы. У студзені 1913 года прэм'ера пастаноўкі бліскуча прайшла ў Вільні, амаль праз месяц — у Пецярбургу. Цёплыя, сяброўскія адносіны звязвалі актрысу і паэта ўсё жыццё, нягледзячы на розныя характары і абставіны.

Падчас першай сустрэчы Паўліне ледзьве споўнілася 17 гадоў, а Янку было ўжо 29, ён — вядомы творца, яна прыехала з Будслава паступаць ў гімназію. Пасля іспытаў студэнтка на радасцях пабегла да знаёмых пахваліцца, а насустрач ёй нечакана выйшаў малады мужчына.



*Паўліна Мядзёлка, 1913 г.*

«Ён быў у камізэльцы, рукавы белай кашулі закатаны, высокі цвёрды каўнерык ад манішкі падпіраў падбародак, светлыя валасы, яшчэ мокрыя, гладка прычэсаны», — узгадала потым у аўтабіяграфічнай кнізе «Сцежкамі жыцця» Паўліна Мядзёлка. Яны з паэтам хутка пазнаёміліся, пачалася гутарка, але Купала ўвесь час жартаваў, нават фліртаваў. Не такім уяўляла яго дзяўчына! Ёй здавалася, што Пясняр будзе больш паважным, як і належыць генію, а тут — звычайны хлопец, што вядзе несур'ёзную гутарку. Тады яна і падумаць не магла, што лёс звядзе іх назаўсёды…

Сваю назву выстаўка Паўліны Мядзёлкі атрымала нездарма, бо «Снілася дзяўчыне...» — гэта верш, які Купала прысвяціў ёй у 1913 годзе. Гасцям імпрэзы пашчасціла пачуць яго ў музычным, надзвычай душэўным выкананні Кацярыны Ваданосавай, салісткі гурта *Alta Mente*.

«Вакол постаці Мядзёлка заўсёды быў арэол таямніцы, недасказанасці, рамантызму. Я ўбачыла яе ўжо ў сталым узросце. Звычайны шэры плашч класічнага крою, касцюм, простыя туфлі — але ўся яна выглядала шыкоўна. Я спыталася: «Які быў Купала?» Яна хрыплаватым голасам адказала: «Вельмі таленавітым». Але ў гэтым нешматслоўі, інтанацыі, вачах былі адказы на ўсё мае пытанні», — распавяла Зінаіда Кучар, дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі.

Спектакль «Паўлінка» — візітная картка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. На працягу 18 гадоў галоўную ролю ў ім выконвала яшчэ адна цудоўная жанчына — Ала Доўгая, якая таксама завітала на імпрэзу. Прычым яе Паўлінка паўставала пераважна ў камедыйным плане, з лірызмам і ў той жа час моцным характарам гарэзлівай вясковай дзяўчыны. Дарэчы, Ала Доўгая асабіста ведала Паўліну Мядзёлка. Знакава, што апошняя іх сустрэча адбылася у музеі Янкі Купалы восенню 1973 года. Пра гэта яскрава сведчыць фотаздымак, які ўсе называюць «Тры пакаленні Паўлінак». На ім — Паўліна Мядзёлка, Раіса Кашэльнікава і Ала Доўгая.

Каб адчуць хаця б крыху тую атмасферу, што панавала на сустрэчы, а мабыць, і ў асабістых стасунках Янкі Купалы і Паўліны Мядзёлка, перад гасцямі выстаўкі выступіў народны тэатр «Жывое слова» са сцэнай сустрэчы Паўлінкі і Якіма Сарокі.

Паўліна Мядзёлка шмат гадоў выкладала беларускую мову, была арганізатарам драматычных і харавых гурткоў. Дзякуючы настойлівасці і трываласці атрымала добрую адукацыю, рана далучылася да культурна-грамадскай справы, перажыла некалькі арыштаў. Шчырыя стасункі звязвалі Паўліну з музеем Песняра: яна неадноймы прысутнічала на Купалаўскіх вечарынах, была ўдзельніцай сустрэч, прысвечаных п'есе «Паўлінка».

На выстаўцы экспануюцца рукапісы ўспамінаў Паўліны Мядзёлка, асабістыя рэчы, узнагароды, мастацкія работы, прысвечаныя ёй, Янку Купалу і пецярбургскай прэм'еры п'есы, фотаздымкі сваякоў, сяброў, паплечнікаў, кнігі, падораныя і падпісаныя Паўліне паэтам.

Яшчэ адна невялічкая, але важная падрабязнасць: Паўліне Мядзёлка, як і Янку Купалу, вельмі падабалася класічная музыка. Зразумела цяпер, чаму ўвесь вечар у музеі гучала фартэпіяна…

**Марыя ВОЙЦІК**

# Звычайны чараўнік у Мінску

11 і 18 лістапада малады творчы калектыў «Тэрыторыя мюзікла. Тэатр Генадзя Гладкова» запрашае на прэм'еру мюзікла-вадэвіля «Сватаўство гусара», якая адбудзецца ў Палацы культуры прафсаюзаў. Пра будучы спектакль, пашырэнне рамак жанру і працу з народным артыстам Расіі Генадзем Гладковым — рэжысёр Настасся Грыненка і харэограф і артыст Дзмітрый Якубовіч.

**— «Тэрыторыя мюзікла» — гэта тэатр Генадзя Гладкова. Вас не палохае такі вузкі кірунак вашай дзейнасці?**

**Настасся:** — Насамрэч ён вельмі шырокі, таму што ў Генадзя Гладкова велізарны творчы дыяпазон. Ёсць пэўныя клішэ, маўляў, мюзікл — гэта вар'етэ, шоу з дзяўчынкамі у пёрах — адным словам, несур'ёзна… А калі паглядзець, што адбываецца на Брадвеі, на оф-Брадвеі, то відавочна, наколькі жанр шырэйшы за нашыя ўяўленні. Ён атрымлівае сваю ўнутраную разнастайнасць, і мы вырашылі паказаць гэта на сваім прыкладзе. Першы мюзікл, які мы паставілі ў межах гэтага тэатра, — дзіцячы дэтэктыў «Ёхім Ліс — дэтэктыў з дыпломам», а цяпер ужо іншы жанр: вадэвіль «Сватаўство гусара». Мы імкнёмся ўсебакова даследаваць мюзікл, развіваць яго, пашыраць межы. І такія эксперыментыя, якія амаль немагчыма рабіць на сцэнах вялікіх акадэмічных тэатраў, тут мы можам сабе дазволіць. А Генадзь Гладкоў, чалавек няўрымслівай энергіі, выступае як ідэйны натхняльнік, ён быццам невычэрпная крыніца творчых задумак. З яго дапамогай мы можам спрабаваць усё, што заўгодна! Гэта цікавы досвед і для нас, пастаноўшчыкаў, і для гледачоў, якія змогуць убачыць у нашым тэатры мюзіклы і музычныя праграмы розных кірункаў, адкрыць для сябе гэты жанр з розных бакоў.

**— Вы супрацоўнічаеце з кампазітарам ужо шмат гадоў і яшчэ да стварэння творчага аб'яднання «Тэрыторыя мюзікла» паставілі на яго музыку эксцэнтрычны балет «12 крэслаў», мюзікл для дзяцей і дарослых «Прыгоды брэменскіх музыкантаў», мюзікл-прытчу «Звычайны цуд». Генадзь Гладкоў ужо ваш сябра ці ўсё ж такі пакуль партнёр і калега?**

**Настасся:** — Мы спадзяёмся, канечне, што ён наш сябра, і ён нас так называе. Гэта вельмі прыемна. Мы з вялікім піетэтам ставімся да яго, бо выраслі на ягонай музыцы і разумеем, што гэта чалавек-легенда. Як казаў Марк Захараў, адзін з «магутнай кучкі» — сучасны, зразумела.

**Дзмітрый:** — Спасцігнуць усё, што ён стварыў, абсалютна немагчыма! Часта бывае, што міжволі вырываецца вокліч здзіўлення: «Ой, і гэта вы напісалі? І гэта таксама ваша?» Я ўжо проста пазнаю яго стыль, нават калі не ведаю канкрэтнага твора.

**Настасся:** — А колькі яшчэ хочацца паставіць! Проста губляешся ў гэтай разнастайнасці тэм і жанраў. Здавалася б, са «Звычайным цудам» я ўжо жыву год (спектакль быў пастаўлены ў Мінску ў пачатку 2013 г. — **М. П.**), але ўсё адно на кожнай рэпетыцыі слухаю гэтую музыку і думаю: як атрымалася напісаць такі шэдэўр?!

**Дзмітрый:** — А колькі Генадзь Ігаравіч яшчэ не напісаў!

**Настасся:** — Мы цікавіліся яго планамі. Па-першае, 8 студзеня ў знакамітай Канцэртнай зале Чайкоўскага адбудзецца канцэртнае выкананне «Звычайнага цуда» Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам Расіі (дырыжор Уладзімір Юроўскі). Гладкоў напісаў вельмі складаныя аркестроўкі, каб музыканты не думалі, што змогуць «адпачыць»



Фота Анжалікі Траковіч

*Настасся Грыненка, Генадзь Гладкоў і Дзмітрый Якубовіч падчас творчага вечара «Формула кахання» ў Белдзяржфілармоніі*

на мюзікле *(смяецца)*. Па-другое, Генадзь Ігаравіч нядаўна скончыў оперу «Зялёная птушка» па матывах казкі Карла Гоцы, гэта пакуль не пастаўлены матэрыял.

**Дзмітрый:** — А яшчэ ён нам паабяцаў напісаць музыку паводле беларускай казкі, так што сёння мы знаходзімся ў пошуках і адкрыты для прапаноў!

**— Чаму з багатай творчай спадчыны Генадзя Гладкова вы абралі для пастаноўкі менавіта «Сватаўство гусара»?**

**Настасся:** — Вадэвіль — гэта вельмі цікавы жанр, дарэчы, адзін з самых папулярных у рускай дарэвалюцыйнай антрэпрызе. Вялікія артысты, зоркі, для сваіх бенефісаў бралі менавіта вадэвілі, дзе можна было пастаянна пераапранацца, выконваць адразу некалькі роляў, спяваць жартоўныя куплеты… Гэты жанр заслужана любімы гледачамі, з яго нават у нейкай меры вырас наш айчынны савецкі мюзікл. Вадэвіль — рэч гарэзлівая, і нам таксама хацелася крыху пажартаваць з яго самога, пасмяяцца з нейкіх штампаў жанру: у нас ёсць і бравыя гусары, і гераіня ў пакутах, і палкі герой, і злосны бацька, які разлучае закаханых. Як лічыць Генадзь Ігаравіч, вадэвіль павінен быць вясёлым і хуткім, як куля, а я яшчэ дадам, ён заўсёды надзённы. А што можа быць больш актуальным, чым вечны канфлікт «любоў ці грошы», які ёсць у нашым спектаклі?

**— «Сватаўство гусара» — гэта тэатральны рымейк аднайменнага фільма Святланы Дружынінай, у якім галоўныя ролі выконвалі такія знакамітыя акцёры, як Міхаіл Баярскі, Алена Коранева, Андрэй Папоў. Новых артыстаў заўсёды параўноўваюць з «кананічнымі» выканаўцамі, у вашым выпадку, Дзмітрый, з Міхаілам Баярскім. Як вы ставіцеся да гэтага?**

**Дзмітрый:** — Я не баюся параўнанняў, слухаць крытыку — цікава і карысна для акцёра. Каб не капіраваць, нават міжволі, папярэдніка, я стараюся не глядзець на яго, пакуль ідзе рэпетыцыйны працэс. А далей усё залежыць ад рэжысёра, партнёраў і ад цябе самога, ад тваіх жыццёвых назіранняў і асабістага досведу. З нейкіх дробязей, падгледжаных сітуацый, цікавых гутарак з калегамі паступова складваецца зусім новы персанаж. Тым больш, такая музыка, якую напісаў Генадзь Гладкоў, дае столькі прастору для фантазіі, што акцёры літаральна могуць купацца ў матэрыяле і ствараць нешта цікавае.

**Настасся:** — Кіно і тэатр — розныя віды мастацтва. У тэатры, асабліва ў музычным, які мае вельмі шмат дзейсных сродкаў выразнасці, нават больш магчымасцей раскрыць характар персанажа. Тэатр — справа жывая, акцёр у кожным новым спектаклі можа паказаць свайго героя неяк па-іншаму. А кіно — гэта раз і назаўсёды зафіксаваная гісторыя. Аднак вельмі цікава даваць фільму, які ўжо стаў культавым, новае жыццё.

**Марына ПАНІНА**

# Шукайце ісціну!

Ужо на працягу тыдня аматары якаснага кіно згодна са слоганам ММКФ «Лістапад-2013» шукаюць ісціну ў стужках рэжысёраў з 36 краін свету. Сёлетні фестываль напоўнены разнастайнымі кінашэдэўрамі ў розных намінацыях. Засяродзім увагу на найбольш яркіх карцінах.

## КАБ СТАЦЬ РЭЖЫСЁРАМ...

Фільмам адкрыцця асноўнага конкурсу ігравога кіно стала стужка «Параджанаў», абраная Украінскім Оскараўскім камітэтам прэтэндэнтам у намінацыі «Замежны фільм».

Карціна распавядае пра жыццё і барацьбу за права ствараць прыгожае вялікага ўкраінскага рэжысёра армянскага паходжання Сяргея Параджанава. Акрэслены перыяд жыцця творцы ад здымак шэдэўра ўкраінскага паэтычнага кіно «Цені забытых продкаў» і да 1988 года, калі яго запрасілі ў Парыж на паказ кінастужак грузінскіх кінематографістаў.

«Параджанаў» — па-сапраўднаму міжнародны праект: інтэрнацыянальныя арганізатары, прадзюсары, рэжысёры і акцёры. Нічога дзіўнага, С. Параджанаў — грамадзянін свету, армянін, народжаны ў Грузіі, які жыў ва Украіне, быў прызнаны ў Еўропе.

У кінастужцы добра паказана, якую цану прыйшлося заплаціць Параджанаву за здольнасць бачыць і адчуваць гэты свет інакш: «Для таго, каб стаць геніяльным рэжысёрам, табе трэба адсядзець два гады ў турме... Трэба будзе Таркоўскаму пра гэта сказаць», — разважае ўслых галоўны герой. Фільм не толькі пра барацьбу, а яшчэ і пра неймаверную любоў да жыцця і ўсяго жывога, пра тое, што трэба смяяцца, калі балюча і калі хочацца плакаць — танчыць і радавацца таму, што жывеш, што жыццё — гэта падарунак. Сувязь з каранямі і разуменнем, што мы — гэта наша зямля і наша радзіма, праходзіць праз усё кінаапавяданне.

## ХРЭСТАМАТЫЙНАЯ РОЛЯ

Беларусь у асноўным конкурсе ігравога кіно прадставіў фільм «Роля» Канстанціна Лапушанскага. Карціна з'яўляецца сумеснай вытворчасцю кінакампаній чатырох краін (Беларусь — Расія — Фінляндыя — Германія). У галоўнай ролі — вядомы расійскі акцёр Максім Суханаў.

Як адзначыў рэжысёр фільма, сцэнарый ён пісаў 30 гадоў. «Аснова нарадзілася ў 80-я гады, але — цэнзура... Потым я думаў зрабіць фільм пра юнацтва пісьменніка Андрэя Платонава, а ўжо ў 2000-я прыйшоў да высновы, што трэба рабіць акцёрскую гісторыю».

Кінафільм «Роля» распавядае пра геніяльнага акцёра эпохі Сярэбранага веку, які жыве ў згодзе з ідэямі сімвалізму. Скарыстаўшыся выпадкам, які падарыў лёс, ён вырашае пражыць чужое жыццё, нібы ролю. Аднак выбар часу для «спектакля» яму непадуладны. Акцёра чакае трагічны фінал.

«Роля», несумненна, з тых фільмаў, якія з захапленнем і вялікай пашанай сустрэнуць, напрыклад, на Венецыянскім кінафестывалі. Наўрад ці атрымае ён вялікія касавыя зборы, але менавіта такія карціны ўваходзяць у гісторыю кінематографа і становяцца хрэстаматыйнымі.

## ЗАЙМАЛЬНАЕ, СЯМЕЙНАЕ

Конкурс фільмаў дзіцячай і юнацкай аўдыторыі «Лістападзік» адкрыў поўнаметражны фільм рэжысёра Алены Туравай «Кіндэрвілейскі прывід» па матывах навелы Оскара Уайльда.

Фільм спалучыў розныя жанры: гатычную камедыю, хорар, фэнтэзі, сямейнае кіно і нават меладраму. У карціне занятыя вядомыя беларускія акцёры: Вячаслаў Паўлюць, Раман Падаляка, Алеся Самаховец, Валянцін Глушко і іншыя. Музыку для стужкі напісаў беларускі кампазітар Уладзімір Кандрусевіч, які некалькі гадоў таму працаваў над музыкай да мультфільма па творы Оскара Уайльда «Кентэрвільскі прывід».

Па сюжэце няўдачлівы прадзюсар Косця пасля чарговага правалу апускае рукі і застаецца без даху над галавой. На шчасце, яго бабуля — уладальніца старой сядзібы ў Вілейскім раёне. Праўда, ёсць адно «але»: у змрочным, напаўразбураным доме жыве злосны прывід!

Добрая гісторыя пра барацьбу новага пакалення з памылкамі мінулага і непахіснасць сямейных каштоўнасцей. У фільме шмат гумару, музыкі, камп'ютарнай анімацыі і яркіх спецэфектаў.

## ЗМРОЧНАСЦЬ З АНШЛАГАМ

У межах праграмы рэтраспектыўнага кіно ММКФ «Лістапад» свае карціны прадставіла знакаміты французскі рэжысёр Клер Дэні. Паказ фільмаў «Слаўныя выраджкі», «Няпрошаны госць», «Не магу заснуць» прайшоў з аншлагам. Клер Дэні асабіста прадстаўляла карціны і пасля прагляду пагутарыла з гледачамі. Характарызуючы кінастужку «Слаўныя выраджкі», рэжысёр адзначыла: «Людзі заўсёды падкрэсліваюць, што не трэба быць песімістычнымі, аднак нярэдка бывае так, што добры чалавек пакутуе ад таго добрага, што ён зрабіў. Гэта адна з праблем, якая ўздымаецца ў фільме».



Фота Аляксандра Дзмітрыева

*Французскі рэжысёр Клер Дэні.*

Музыку стварыў саліст брытанскага гурта *Tindersticks* Сцюарт Стэйплз. З гэтым калектывам Клер Дэні супрацоўнічае больш як 15 гадоў. Рэжысёр прызналася, што хоць музыка і ўзмацняе экраннае ўздзеянне, але для яе вялікай ролі не мае. «Калі я працавала над фільмам, у галаве пастаянна чула гук кропель дажджу. Ён і быў акампанементам да стужкі».

Унучка жыхара Амазонкі і дачка каланізатара, яна расла ў Афрыцы, не выяўляла асаблівых схільнасцей падчас вучобы ў кінашколе, а сапраўдная цікавасць да мовы кіно прыйшла толькі ў выніку геаграфічных і эстэтычных пошукаў. Слухаць шум вялізнага карэйскага порта ў карціне «Няпрошаны госць», адчуваць жудасную спёку ў «Белым матэрыяле»: яе фільмы незвычайна адчувальныя да энергетыкі месца, да небяспечных таямніц, якія хаваюцца ў розніцы моў, культур, музыкі. А падарожжа ў Азію, Паўднёвую Амерыку і арабскі свет робяць Клер Дэні галоўным французскім рэжысёрам-касмапалітам.

Вось так сцісла можна пералічыць-прааналізаваць далёка не поўны спіс фільмаў, прадстаўленых у трох асноўных секцыях сёлетняга кінафестывалю «Лістапад».

**Таццяна ШЫМУК**





**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

## Слова краязнаўцы



**Вітольд ЕРМАЛЁНАК, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне», настаўнік сярэдняй школы № 3 г. Мёры, музейшчык, радзімазнавец, выдавец газеты «Мёрская даўніна», распавядае пра ўшанаванне памяці Генрыха Дмахоўскага і Яна Гушчы:**

— Мёршчына дала свету шмат знакамітых людзей, якімі па-сапраўднаму можна ганарыцца. На жаль, памяць пра іх не ўшанавана ні ў велічных помніках, ні на сціплых мемарыяльных дошках. Вось чаму створаны ў СШ № 3 клуб «Адраджэнне», які ўвайшоў у Беларускую асацыяцыю клубаў «ЮНЕСКА», адной са сваіх першапачатковых задач вызначыў запаўненне гэтага прабелу. Было вырашана ўшанаваць памяць самага знакамітага ўраджэнца Мёрскага раёна, паўстанца і скульптара Генрыха Дмахоўскага, а таксама пісьменніка, паэта і перакладчыка Яна Гушчы.

Дзякуючы дырэктару СШ № 3 Валянціне Атрошка ініцыятыва членаў клуба і настаўнікаў была падтрымана райвыканкамам і зацверджана на калегіі Міністэрства культуры. Вырабілі мемарыяльныя шыльды індывідуальны прадпрымальнік Аляксандр Чарняўскі і яго бацька Баляслаў Часлававіч. Яны ж выступілі і фундатарамі праекта. Урачыстае адкрыццё мемарыяльных шыльдаў адбылося ў кастрычніку.

На ўрачыстасць у вёсцы Забалоцце сабралася шмат людзей. Сюды прыехалі віцэ-прэзідэнт клубаў ЮНЕСКА ў Беларусі Дзмітрый Субцэльны, прадстаўнікі раённай улады на чале з намеснікам старшыні Мёрскага райвыканкама Марыяй Баніфатавай, мясцовыя жыхары, вучні і настаўнікі Перабродскай і Міляшоўскай базавых школ, краязнавец і пісьменнік з Верхнядзвінска Антон Бубала, члены клуба «Адраджэнне», прадстаўнікі СМІ і інш. Прагучаў расповед пра цярністы жыццёвы шлях Генрыха Дмахоўскага. Старшыня Перабродскага сельсавета Віктар Дзеравянчык заначыў, што ўшанаванне памяці знакамітага земляка спрыяе большай цікавасці дзяцей да гісторыі роднай зямлі.

Госці маглі паблукаць па сутарэннях былой сядзібы Дмахоўскіх, узведзенай у 1742 годзе, пабачыць дуб-волат, пасаджаны біскупам Казімірам Дмахоўскім у сярэдзіне XIX стагоддзя.

Потым пераехалі ў горад Дзісну, дзе на сустрэчу сабраліся школьнікі Дзісненскай СШ, грамадскасць горада, мясцовыя краязнаўцы. Прагучаў расповед пра творчы шлях Яна Гушчы. Прачула распавяла пра свайго земляка намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мёрскага райвыканкама Таццяна Стальмачонак, а метадыст аддзела адукацыі Святлана Захарэвіч прачытала ўласны верш, прысвечаны Яну Гушчу. Старшыня Дзісненскага гарсавета Аляксандр Качан звярнуў увагу на значэнне мерапрыемства для горада, які мае багатую гісторыю. Дзісненскі краязнаўца Пётр Баговіч прапанаваў ушанаваць памяць і іншых знакамітых ураджэнцаў Дзісны.

## Цікава ведаць

# Чым край багаты

Сорак фотаздымкаў беларускіх фотамастакоў (С. Плыткевіча, У. Паўлава, М. Бегунковай і інш.) з выявамі архітэктурнай спадчыны Навагрудка, Нясвіжа, Міра, Крэва, іншых турыстычных аб'ектаў Беларусі і ілюстрацыяй правядзення традыцыйных нацыянальных абрадаў прадстаўлены на перасоўнай выстаўцы «Быццёмасць…» у Музеі гісторыі Гомеля. Экспазіцыя, прысвечаная дзесяцігоддзю Канвенцыі ЮНЕСКА аб ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны, падрыхтавана Інстытутам культуры Беларусі сумесна з творчым саюзам «Фотамастацтва» пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Мэта выстаўкі — адлюстраваць багацце прыроднай і культурнай спадчыны нашай краіны.

**Міра ІЎКОВІЧ**

## Музейны ўнікат

# «Выраслі» на агародзе

Хаця Нясвіжскі гісторыка-краязнаўчы музей афіцыйна адкрыўся ў пачатку 1995 года, першая выстаўка «Нясвіжская Скарбніца» ладзілася тут яшчэ ў верасні 1994-га.

Цяпер пад крылом гэтай установы працуюць кватэра-музей мастака М. Сеўрука, ганчарная майстэрня і музейны аб'ект «Кузня».

Музейны фонд складваецца з 1986 года. Сёння ён налічвае каля 8600 прадметаў асноўнага фонду, які размеркаваны паміж 18 калекцыямі. Адна з іх мае назву «Посуд».

У 1988 годзе ў сутарэннях нясвіжскага касцёла кляштара бенедыкцінак быў знойдзены скарб: шкляны, фарфоравы і металічны посуд — усяго 141 прадмет.



*Ваза на фігурных ножках.*

Найбольшую цікавасць прадстаўляюць графін у выглядзе гусі (шкло, метал), дзве лыжкі з ручкай-дзяржаннем у выглядзе клюшні рака, фарфоравая дэкаратыўная насценная талерка і ваза на трох фігурных ножках. Навукоўцы лічаць, што гэтыя ўнікальныя рэчы выраблены ў Польшчы ў канцы XIX — пачатку XX ст.

Вабіць вока куфель. Яго паходжанне — г. Кёнігсберг, прыкладна 1720 — 1757 гады, аўтар рарытэта — Юнге



*Куфель.*

Андрэас. Выраблены прадмет са срэбранай бляхі, ручка завяршаецца фігурнай платформай у форме геральдычнага шчыта. Манеты ўпаяны ў прарэзаныя на корпусе адтуліны і выгнуты згодна з дыяметрам асновы кубка. У цэнтры рухомай накрыўкі — медаль з выявай Багуслава Радзівіла. А знойдзены быў куфель жыхаром Нясвіжа на ўласным агародзе.

**Вольга ШКРАБІНА, фота аўтара**

# З Коласавых сцяжын

Пра дацэнта Магілёўскага педагагічнага інстытута Аляксандра Макарэвіча ў Пухавіцкай гісторыка-дакументальнай хроніцы «Памяць» гаворыцца, што ён вучоны, пісьменнік, кандыдат філалагічных навук.

Пасля заканчэння літаратурна-лінгвістычнага факультэта Мінскага педінстытута імя М. Горкага Аляксандр Антонавіч нядоўгі час настаўнічаў на Гомельшчыне. Удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне, пад Ельняй быў цяжка паранены і трапіў у канцлагер. Вызвалены ў сакавіку 1945-га. Па снежань знаходзіўся ў дзеючай арміі, а з 1946 г. працаваў у Талькаўскай СШ на Міншчыне. Потым — вучоба ў аспірантуры. Амаль два дзесяцігоддзі выкладаў беларускую літаратуру будучым настаўнікам у Магілёве. З 1960 г. член Саюза пісьменнікаў СССР. У друку пачаў выступаць у пачатку 50-х.

Аляксандр Антонавіч паспяхова выступаў у ролі даследчыка беларускай літаратуры. Манаграфіі А. Макарэвіча, звязаныя з вывучэннем творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, былі рэкамендаваны настаўнікам Міністэрствам асветы БССР для выкарыстання на ўроках і ў пазакласнай рабоце.

Сцежкамі-дарожкамі Якуба Коласа прайшоў, будучы ў Тальцы, дзе пасябраваў з Мікалаем Лагунчыкам, матэматыкам, які любіў паслухаць і запісаць ад старажылаў, якой была гэтая вёска ў розныя гады. Відаць, на глебе зацікаўленасці даўнінай і сышліся два настаўнікі.

Менавіта Лагунчык падказаў Макарэвічу, у каго летаваў Якуб Колас з сям'ёй у трыццатыя гады ў Тальцы. Гэта інфармацыя зацікавіла педагога. Ён наведаў сям'ю Ясюціцкага, якая дала прытулак паэту ў 1933 — 1934 гг.

Гаспадыня хаты, развітваючыся з настаўнікам, дала надзею: «У Насыцку Колас на вяселлі гуляў. А за грыбамі аж у Малінаўку дапяў. Там яго яшчэ памятаюць».

У грыбныя сіўцовыя мясціны вадзіў Якуба Коласа рыбак і грыбнік, мясцовы паштальён Мартынчык.

— Пасля Талькі Колас перабраўся ў Загібельку, — распавёў Мартынчык. — Там летаваў у лесніка Бранавіцкага. І што цікава: хадзіў кожны дзень у Тальку на пошту — 8 кіламетраў сюды-туды.

Вырашылі настаўнікі наведаць Загібельку.

Загібелька — нібы лясная казка. Радасць, натхненне паэта. Было за што Коласу любіць вёсачку. Прызнаваўся:

*Быць можа, я крыху дзівак,*
*Але люблю я Загібельку:*
*Там кожны хвойнік мне сваяк,*
*Там ясным днём надрэчны гак*
*Мне суліць мяккую пасцельку.*

Радаваўся паэт і мясцоваму краявіду: «Агромністыя стагі канюшыны, цэлы пасёлак бульбяных капцоў, зялёная роўнядзь густой лапушыстай руні — сведкі вытворчай сілы новай зямлі».

А сям'ю Бранавіцкіх, у хаце якіх летаваў Колас у 1935 г., А. Макарэвіч адшукаў у Рудні — за 4 кіламетры ад Талькі. Яму распавялі шмат цікавага пра жыццё-быццё Песняра ў Загібельцы, завялі ў дубовы гай, дзе паэт збіраў жалуды для высеву ў Мінску каля свайго жытла. Усё, што звязвала Якуба Коласа з талькаўскімі мясцінамі, занатаваў у сшытак. І ў 1956 г. аднёс напісанае ў абласны дзіцячы санаторый «Пухавічы», які быў створаны на базе даваеннага дома адпачынку беларускіх пісьменнікаў. Прапанаваў дырэктару санаторыя Алене Усціновіч адкрыць літаратурны музей Якуба Коласа і Янкі Купалы.

> *“Аляксандр Антонавіч паспяхова выступаў у ролі даследчыка беларускай літаратуры. Манаграфіі А. Макарэвіча, звязаныя з вывучэннем творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, былі рэкамендаваны настаўнікам Міністэрствам асветы БССР для выкарыстання на ўроках і ў пазакласнай рабоце.*

— П'есу «Вайна — вайне», — патлумачыў Макарэвіч, — пісаў Якуб Колас у вас, знайшоў адпаведнае мастацкае рашэнне задумы ў сакавіку 1937 года. Менавіта Пухаўшчына ў гэты перыяд жывіла талент класіка.

— Вы маеце рацыю, — згадзіўся Макарэвіч. — А пісьмо Гарадзецкаму пра ваш санаторый я пакідаю вам. І свае запісы для музея.

Літаратурны музей Янкі Купалы і Якуба Коласа з цягам часу быў створаны.

На творчыя пошукі ў галіне мовазнаўства і літаратуразнаўства А. Макарэвіча, думаецца, паўплывала творчасць Купалы, Коласа, Танка, Крапівы. Пра гэта сведчаць выпушчаныя з яго ўдзелам вучэбныя дапаможнікі для студэнтаў ВНУ: «Беларуская дзіцячая літаратура» (1966), «Беларуская вусна-паэтычная творчасць» (1966). І вось што важна. Пры характарыстыцы моўных асаблівасцей герояў Якуба Коласа, Янкі Купалы А. Макарэвіч прытрымліваўся сістэмы стылістычных прыкмет, звязваў з паэтыкай фальклору.

Разгорнутыя маналогі ў творах Купалы, стылёва-вобразная плынь — усё гэта глыбока даследавана А. Макарэвічам. Як вынік: прыведзены ў сістэму анамастычны этнаграфічны слоўнік паэта. Раскрыты і аспекты сацыяльнага зместу творчасці Песняра ў манаграфіі «Фальклорныя матывы ў драматургіі Янкі Купалы» (1969).

Грунтоўную атэстацыю станоўчых вобразаў твораў Кандрата Крапівы даў літаратуразнаўца ў манаграфіі пра вядатнага сатырыка. Арыгінальны погляд выкладзены ў літаратуразнаўчай працы «Сатыра Кандрата Крапівы» (1962): адмоўнае — гэта пачатак камічнага.

Знайшоў даследчык у творах класіка сюжэтна-рухомую спружыну, разгледзеў нават моўную этнадыялектную асаблівасць персанажаў драматурга.

А вось «Кароткі літаратуразнаўчы слоўнік» А. Макарэвіча (1963) выклікаў спрэчкі ў перыядычным друку. У газеце «Літаратура і мастацтва» з'явілася рэцэнзія кандыдата філалагічных навук Вячаслава Чамярыцкага, які выказаў шэраг заўваг па гэтай працы. Даследчык улічыў заўвагі, пра што сведчыць выдадзены ў 1969 г. паўторны, дапоўнены і перапрацаваны літаратуразнаўчы слоўнік магілёўскага аўтара.

З Талькі Аляксандр Антонавіч пачаў шлях у навуку. Тут пакінуў ён добрую памяць у сэрцах сваіх вучняў як чалавек, настаўнік, літаратуразнаўца, дарадчык.

**Браніслаў ЗУБКОЎСКІ**

# Арганы гучаць…

Сёння кожны з нас мае магчымасць выбару: пайсці на выступленне эстраднай зоркі, народнага калектыву ці на канцэрт класічнай музыкі. Арганізатары і фундатары фестывалю «Гучаць старадаўнія арганы Пастаўшчыны», які ўпершыню прайшоў у музычнай сталіцы Паазер'я, мараць пра тое, каб большасць беларусаў далучалася да высокадухоўнага мастацтва. Няхай і не адразу.



Арган у касцёле Святога Яна Хрысціцеля ў г. п. Камаі.

## ЧАМУ — У ПАСТАВАХ?

Ужо два дзесяцігоддзі ў Паставах праводзіцца міжнародны фестываль народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік». Сёлета ў межах свята ў касцёле Святога Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ладзілі канцэрт арганнай музыкі, які з вялікім задавальненнем наведалі жыхары і госці райцэнтра. Не дзіўна, што ў арганізатараў фэсту ўзнікла жаданне зладзіць яшчэ адзін фэст, у праграме якога была б класіка найвышэйшага гатунку, тым больш што класічнае мастацтва пры сваім нараджэнні абапіралася на народную музыку.

— Таму і зрабілі спробу ахапіць выступленнямі арганістаў іншыя храмы, бо добра вядома: канцэрт у касцёле — гэта не проста канцэрт, у храме — асаблівая атмасфера: намоленыя сцены спрыяюць духоўнаму ўздыму, — зазначыў намеснік старшыні Пастаўскага райвыканкама Юрый Кісялёў. — Ініцыяваў правядзенне фестывалю «Гучаць старадаўнія арганы Пастаўшчыны» наш зямляк, былы намеснік міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі. Прыязна ўспрыняў гэтую ідэю і ксёндз-пробашч касцёла Святога Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі Анджэй Возняк.

Невыпадкова фэст наладзілі менавіта на Пастаўшчыне. У колішнім мястэчку Камаі ў 1898 г. нарадзіўся і, што вельмі сімвалічна, быў ахрышчаны ў касцёле Святога Яна Хрысціцеля Браніслаў Руткоўскі — прафесар, знакаміты беларуска-польскі музыкант, арганізатар міжнародных фестываляў арганнай музыкі ў Польшчы. Прынамсі, першы з іх прайшоў у далёкім 1863 годзе. Браніслаў Руткоўскі не забываўся пра малую радзіму, усё жыццё праслаўляў беларускую зямлю, стварыў шмат цудоўных твораў. Да слова, першы арганны канцэрт адбыўся ў Паставах дзесяць гадоў таму ў межах фестывалю «Звіняць цымбалы і гармонік». Апошнім штуршком для арганізацыі новага фэсту з'явілася сёлетняе выступленне Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь.

— Менавіта ў храмах выконваліся і выконваюцца творы, якія раскрываюць душу і сэрца чалавека, — падкрэсліў ксёндз-прэлат Уладзіслаў Завальнюк, пробашч касцёла Святых Сымона і Алены (г. Мінск). — Гледзячы на мінеральную ваду, мы можам уявіць, праз якія падземныя пласты яна прайшла, перш чым трапіць на стол. Слухаючы духоўную музыку, адчуваем, праз якія пакаленні, стагоддзі і як праходзіла гэтая духоўнасць, каб сёння мы яе па-сапраўднаму адчулі.



Арганісты Ксенія Пагарэлая, Канстанцін Шараў, Кацярына Нікалаева і Валерый Кетрыс.

## ПАД ЗВОДАМІ ХРАМАЎ

Сёння ў краіне амаль 100 арганаў. Прычым значная частка іх захавалася ў адносна добрым стане. Амаль усе размешчаны ў храмах. Гэта значыць, ёсць база для далучэння суайчыннікаў да высокадухоўнай музыкі. Ёсць і падрыхтаваная публіка, якая можа гэтую музыку ўспрымаць. У праграме арганных канцэртаў падчас фэсту прагучала шмат твораў вядомых кампазітараў заходніх краін, якія патрабуюць разумення і адчування.

— Для любога фестывалю павінны быць падрыхтаваны асяроддзе і глеба, — распавёў Тадэуш Стружэцкі. — Адна з найважнейшых умоў поспеху — запатрабаванасць у слухачоў. Яна маецца. Больш за тое, абмяркоўваецца праграма адраджэння старадаўніх арганаў. Можна сабраць сродкі на аднаўленне старых інструментаў, каб па чарзе іх рамантаваць. Можна набыць і новыя.

Пастаўшчыне пашанцавала: тут захаваліся арганы ў цудоўных храмах. У чатырох з іх праходзіў фестываль. Распачаўся ён у касцёле Святога Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Багародзіцы Марыі, які велічна сягае ўвысь у самым цэнтры Паставаў. Пабудаваны ў 1898 — 1904 гг., падчас Першай сусветнай вайны храм быў моцна пашкоджаны, а яго арган знішчаны. У 1920-я гады касцёл адбудавалі. Праўда, у савецкія часы закрылі, у 1988-м перадалі вернікам. Цяпер тут усталяваны сучасны арган.

Далей артысты перамясціліся ў г. п. Лынтупы, у касцёл Святога Андрэя Апостала (1908 — 1914). Арган з'явіўся ў ім у 1929 годзе. Шчырымі апладысментамі віталі гасцей у аграгарадку Камаі, дзе размешчаны ўнікальны помнік абарончага дойлідства — касцёл Святога Іаана Хрысціцеля. Будаўніцтва храма было распачата ў 1603 г. і завершана ў 1606-м. Першы арган усталяваны ў XVIII ст. Па сённяшні захаваўся арган 1906 г., упрыгожаны разьбой і скульптурамі. Камайскі храм — адзіны ў Віцебскай вобласці, які прэтэндуе на ўваходжанне ў спіс гісторыка-культурнай спадчыны ЮНЕСКА.

Цёпла сустракалі арганістаў у касцёле Святога Тадэвуша (1766 — 1776) у вёсцы Лучай. У 1971 г. храм закрылі, вярнулі каталікам толькі ў 1990-м. Арган усталявалі яшчэ ў 1811 г. Інструмент мае мануал і 12 рэгістраў. Сёння храм і арган дзякуючы Алегу Валадзько, былому старшыні калгаса імя Суворава, адрэстаўраваны. Гукі аргана суправаджаюць службы, у касцёле праходзяць канцэрты для вернікаў і турыстаў.

## ЁСЦЬ ВЫДАТНЫЯ АРГАНІСТЫ

Зразумела, узровень фестывалю вызначаецца талентам выканаўцаў. У Паставы завіталі выдатныя арганісты, добра вядомыя не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. На працягу двух дзён жыхары горада і раёна, госці фэсту мелі магчымасць наталіцца чароўнымі гукамі аргана. Віртуозна валодае ім выкладчык Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў, лаўрэат міжнародных конкурсаў Кацярына Нікалаева. Яе ігру дапаўняў выдатны трубач, ураджэнец Пастаўшчыны Валерый Кетрыс. Пасля іх выступленняў доўга не сціхалі апладысменты.

Асабліва ўдзячны былі слухачы за падораныя цудоўную музыку і сапраўднае свята салістцы Полацкай канцэртнай залы «Сафійскі сабор», лаўрэату міжнародных конкурсаў Ксеніі Пагарэлай. Арганістка бярэ актыўны ўдзел у міжнародных фестывалях у Германіі, Аўстрыі, Швейцарыі, Расіі і Беларусі, гастраліруе ў Польшчы, Украіне і Францыі, выступае ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў межах канцэртных цыклаў «Шэдэўры сусветнага арганнага мастацтва» і ў «Міжнародных арганных акадэміях», якія праходзяць у Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Актыўна супрацоўнічае з беларускімі калектывамі, дырыжорамі і выканаўцамі, ажыццяўляе міжнародныя праекты. Да ўсяго Ксенія Пагарэлая з'яўляецца арганізатарам адзінага ў Беларусі Міжнароднага фестывалю арганнай музыкі «Званы Сафіі» ў Полацку, адным з арганізатараў і членам журы Міжнароднага юнацкага арганнага конкурсу «Гатчына — Полацк». Спрычынілася да стварэння камернага аркестра ў Полацку. Артыстка мае фондавыя запісы на Беларускім радыё і тэлебачанні, Віцебскім абласным радыё, запісала тры кампакт-дыскі, дзе прадстаўлена рэтраспектыва арганнай музыкі XVI ст.

Запомнілася ўважлівым слухачам і выступленне Канстанціна Шарава, які ігрой на аргане займаецца з 1977 г. Закончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, навучаўся ў Рыжскай, стажыраваўся ў Швейцарыі. Яго канцэртныя праграмы адрозніваюцца асветніцкай накіраванасцю. Артыст падрыхтаваў серыю манаграфічных цыклаў канцэртаў: «Бах, яго сучаснікі і паслядоўнікі», «Усе арганныя творы Баха», «Анталогія арганнай творчасці Дзітрыха Букстэхудэ» і інш. Неад'емную частку яго рэпертуару складае камерная музыка, падчас выканання якой у поўнай меры раскрыліся здольнасці К. Шарава як аранжыроўшчыка і ансамбліста. Арганіст — пастаянны ўдзельнік фестываляў старадаўняй музыкі, яго сольныя канцэрты гучалі ў межах фестываляў мастацтваў у Беларусі, Украіне, Расіі, Германіі і Польшчы.

Урачыстае закрыццё фестывалю праходзіла зноў жа ў касцёле Святога Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Публіка не была расчараваная: для іх іграў народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Ігар Алоўнікаў. Маэстра з поспехам гастраліруе па Беларусі, краінах замежжа. Выступае як з сольнымі фартэпіяннымі і арганнымі праграмамі, так і ў камерных ансамблях з вядомымі салістамі-інструменталістамі, а таксама з сімфанічным і камерным аркестрамі. Ігар Алоўнікаў — аўтар шэрагу арганных і фартэпіянных транскрыпцый твораў І. С. Баха, І. Брамса, С. Рахманінава, П. Чайкоўскага, балетнай і аркестравай музыкі беларускіх кампазітараў. Стоячы і працяглымі апладысментамі дзякавалі слухачы Ігару Алоўнікаву.

## ДЭБЮТ АТРЫМАЎСЯ!

Падчас арганных канцэртаў у зале не было выпадковых людзей. Тыя, хто прыйшоў у храм, каб паслухаць арган, распавядуць пра падзею іншым. Дэбют атрымаўся!

— Мы можам ганарыцца нашай культурнай спадчынай, — падкрэсліў Тадэуш Стружэцкі. — Мне здаецца, што нам не хапае пачуцця сваёй малой радзімы. Калі б кожны з нас зрабіў нешта для родных мясцін, то, напэўна, не так хутка паміралі б вёскі, а гарады і раёны развіваліся больш імкліва. Хацелася б, каб, прыязджаючы ў іншую краіну, мы гаварылі з гонарам: я прыехаў з Паставаў, з Камаяў. Веру, сюды паедуць турысты: арганны фестываль паспрые як цікавасці падарожнікаў, так і развіццю гэтых мясцін.

…Чароўная музыка аргана падарыла многім шчаслівыя хвіліны сустрэчы з сапраўдным мастацтвам. Ёсць усе падставы лічыць: фестываль «Гучаць старадаўнія арганы Пастаўшчыны» прыжывецца на гэтай гасціннай зямлі. А можа, пашырыць свае межы і стане міжнародным? Ужо ёсць дамоўленасці з рознымі краінамі на ўдзел іх выканаўцаў у арганным фэсце.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**



Касцёл Святога Андрэя Апостала ў г. п. Лынтупы.

# Тры погляды на дзяцінства

Выстаўка жывапісу пад назвай «Тры погляды — адзін свет» працуе ў галерэі «Мастацтва». Аўтары карцін — Рыгор, Наталля і Галіна Івановы. Менавіта яны «прыдумалі» новы мастацкі кірунак — «свецізм». Гэта не проста манера пісьма, а творчая рэлігія, стан душы, пазітыўнае ўспрыманне рэчаіснасці. Персанажы іх палотнаў жывуць у казачным свеце фантазій і сноў, бясклапотным, сонечным, вясёлкава яркім і добрым, як усмешка дзіцяці.

**Марыя ВОЙЦІК**

Вобразы, аднойчы знойдзеныя мастакамі, стварылі асаблівае вымярэнне, дзе чараўніцтва — магчымая з'ява. Вось белы анёл праляцеў над горадам, ружовы аднарог узнік на дарозе, спыніўся, задумаўся. Напэўна, убачыў, як яго сябра, блакітны конік, скраў месяц, каб падарыць каханай… Людзі на карцінах таксама ёсць, але яны па-лялечнаму мілыя, нібы вылепленыя з керамікі — паненкі ў пышных спадніцах, кавалеры-музыкі, клоўны. Пануюць смачныя адценні зефіру, пірожных, клубнічнага сочыва, кавы з малаком, але ёсць і халодныя, фасфарычныя колеры — зялёны, блакітны, фіялетавы. Магія выстаўкі яшчэ і ў тым, што нават дарослы, які завітае сюды, праз колькі хвілін адчуе сябе бесклапотным фантазёрам.

— Такое мастацтва ратуе людзей, — перакананы першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца. Трох аўтараў аб'ядноўвае адзіная мэта — несці людзям святло, якога заўсёды не хапае, надзею, добры настрой, магчымасць схавацца ад трывог і хваляванняў.

— Карціны Івановых — гэта мара, цуд, тое, што не існуе, але дапамагае жыць, дае чалавеку крылы, дыханне, падтрымку, — дадае старшыня аб'яднання мастакоў «Арцель» Рыгор Несцераў.

Рыгор Іваноў часам нават спрашчае вобразы, у вачах яго герояў — разуменне таго, дзе яны жывуць, і жаданне быць вышэй за паўсядзённасць. Наталля пачала ствараць карціны пазней, бо расціла дачок. Вельмі кранае жаночы пачатак яе жывапісу, мяккі, пластычны стыль. У Галіны шмат дэталяў, сімвалаў, таму каля яе работ можна стаяць гадзінамі, шчыра здзіўляцца, адкрываючы таямніцы новага свету.

На думку заснавальніцы першай беларускай галерэі «Брама», мастацтвазнаўцы, мастацкага крытыка Ларысы Фінкельштэйн, мама, тата і дачка — мастакі вельмі розныя, а яднае іх свет чалавечнасці і вечных каштоўнасцей жыцця.



*Галіна Іванова. Дзяўчынка і воўк. Холст, акрыл. 2013.*



*Наталля Іванова. Анёл з птушкай. 2013.*



*Рыгор Іваноў. Шпацыр з месяцам. 2013.*

# Карані, з якіх мы выраслі

Выстаўка графікі Катажыны Гаўрых-Алендэр і малюнка Ежы Таліка «Дзве старонкі свету» прадстаўлена ў вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва.

Катажына Гаўрых-Алендэр, аўтар выстаўкі, нарадзілася ў г. Катавіцы Верхняй Сілезіі. Вучылася ў Акадэміі выяўленчага мастацтва Кракава, на факультэце графікі ў Катавіцах. Яе частка выстаўкі — гэта ўспаміны і развагі пасля наведання Мексікі ў 2009 годзе. Адчуваецца захапленне з'явамі малавядомай культуры. Паказальна тое, што ў гэтым цыкле графічных работ пад назвай «Мексіка» аўтар ужыла новую, апрацаваную тэхніку лічбавага друку на метале.

Ежы Талік нарадзіўся ў г. Бельска-Бяла, скончыў мастацкі ліцэй. Як і Катажына, вучыўся ў Акадэміі выяўленчага мастацтва ў Кракаве, на факультэце графікі ў Катавіцах. Цяпер займаецца малюнкам, прыкладной графікай, кіна- і тэатральнай сцэнаграфіяй. Частка выстаўкі Ежы Таліка — работы з цыкла «Малюнкі з маёй скрыні». Поўны цыкл складаецца з больш як 50 твораў. Гэта апісанне некалькіх месяцаў жыцця, што схілілі мастака да пытанняў міжчалавечых стасункаў: светлыя — каханне, захапленне і змрочныя — трывога, адзінота.

Каменціруючы выстаўку «Дзве старонкі свету», Катажына Гаўрых-Алендэр адзначыла: «Свет — не толькі планета, зямля, напрамкі падарожжаў. Свет — гэта пачуцці, меркаванні, думкі. З Ежы Талікам мы знаёмыя так доўга, што, сустракаючыся ў любы момант, нягледзячы на часавыя прамежкі, заўсёды можам размаўляць пра ўсё. Карані, з якіх мы выраслі, — гэта час нашай маладосці і дзіўнае асяроддзе, у якім нам давялося і хацелася жыць. Мы ідэнтычныя ў духоўным і мастацкім плане. Мы шукаем, хоць і па-рознаму, у цёмных нетрах смутку або ў расквечаным сонцам пейзажы адценні шэрага і залатога, чорнага і блакіту, цяпла і холаду».

**Таццяна ШЫМУК**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 3600 рублёў

Наклад — 2599.
Умоўна друк. арк. 3,72

Нумар падпісаны ў друк 06.11.2013 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 4725.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686